
Мастацкія сустрэчы ➔3

# Ніва

## ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714



Наш Тарашкевіч ➔8

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 51 (3214) Год LXII | Беласток, 17 снежня 2017 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

**Завяршыўся чарговы — XX — Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы «Дэбют»**, сарганізаваны „Нівай” . Удзел у ім прыняло 44 літаратараў-аматараў з усёй Польшчы. У час урачыстага мерапрыемства 10 снежня 2017 года былі зачытаны самыя лепшыя творы. Маладыя і старэйшыя аўтары з вялікім хваляваннем прынялі ўзнагароды за свае творчыя поспехі з рук старшыні Беларускага саюза ў Польшчы Яўгена Вапы і старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў Барыса Пятровіча Сачанкі.

# Загаварылі і заспявалі

Тэкст і фота **Міры ЛУКШЫ**

На працягу конкурсу (пачаўся ў 1996 годзе) прыняло ў ім удзел амаль 900 асоб. Сёлета 44 удзельнікі даслалі 45 камплектаў прац, разгляданых у дзвюх узроставых катэгорыях: I група — дзеці і моладзь пачатковых школ і гімназій і II — вучні сярэдніх школ і дарослыя.

— Самы цяжкі шлях — працаваць у літаратуры, — яшчэ раз адзначыла старшыня журы, вядомая беларуская паэтэса з Бельска Надзея Артымовіч (у журы працавалі з ёю вядомыя прафесіяналы ў слове — літаратуразнавец, крытык і пісьменнік з Гродна Янка Трацяк ды выдатны польскі паэт Юры Плютовіч). — Гэта значыць настойлівая самастойная праца, быццё ў культуры, і чытанне, чытанне, чытанне! Конкурс дае шанц сканцэнтраваць свае сілы, дае магчымасць канфрантацыі. Гэта ёсць таксама і вялікая набілітацыя — сам друк твораў у „Ніве” з’яўляецца вялікай узнагародай. Чакае вас праца, чытанне, праца над сваім беларускім словам. Беспрапынная, настойлівая, бывае што і пакутная праца.

Чарговы раз шматлюдна (18 асоб) прыслалі свае літаратурныя спробы вучні з міхалоўскай школы (на XVI «Дэбюце» выступіла была адна вучаніца), у якой аднавілася навучанне беларускай мове; тры аўтаркі вылучаны — «Малгажата» Маргарыта Садоўская з Шымак заняла першае месца за паэзію, «Сільвія» — Сільвія Грыка з Міхалова, а дэбютантка «Мад» — Мальвіна Банасюк вылучана за свае вершы. Матывавала сваіх падапечных да такога калектыўнага ўдзелу ў прэстыжным літаратурным конкурсе настаўніца беларускай мовы Эмілія Грыка, родам з Новага Ляўкова Нараўчанскай гміны, якая, дарэчы, магла б, як і настаўніца з Нараўкі, таксама таленавітая аўтарка Анна Кандрацюк, натхнёная сваімі вучнямі, прысласць свае творы, хаваныя дагэтуль у шуфлядзе стала, на конкурс і апынуцца нават сярод пераможцаў, паміж сваімі былымі выхаванцамі (II месца сярод дарослых аўтараў заняла Анна Кандрацюк, якая жыве ў Дубінах Гайнаўскай гміны).

Трэба адзначыць дзве гміны — Міхалоўскую і традыцыйна ўжо Нараўчанскую, з якой найбольш удзельнікаў — і вучняў пачатковай школы, і гімназіі, якіх заахвочваюць да пісання дзве настаўніцы — Анна Кандрацюк (паэтычны «Хтосьці») і Ліля Тарасэвіч. У Нараўчанскі гміне штогод назіраецца сапраўдны высып аўтараў, адважваюцца нават і немаладыя. Удзельнікаў, якія маюць або мелі дачыненне да Нараўчаншчыны — зноў хіба адна трэць канкурсантаў. Грамадой удзельнікі конкурсу прыбываюць таксама на ўрачыстую сустрэчу ўсіх аўтараў, вылучаных узнагародай і не вылучаных, але са спадзяваннем на тое, што маюць шанц выказацца ў родным слове і можа нават пайсці нялёгкай сцежкай літаратара. І з надзеяй на друк сваіх тэкстаў, спачатку ў «пітомнік» «Нівы» і «Зоркі».

— Удзел у конкурсе і друк твораў з’яўляецца таксама вялікім вылучэннем і набілітацыяй, — паўтарае аўтарам Надзея Артымовіч і ўспамінае: — Я памятаю свой дэбют у „Ніве” ў 1970 годзе, пасля якога я проста лунала над Варшавай!

У транспарце нараўчанам як заўжды дапамагае войт Нараўчанскай гміны Мікалай Павільч. Ён добра ведае аб тым, што свае паэты і мастакі з’яўляюцца адной з лепшых візітных картак гміны. Праўда гэта ці не, што ў Нараўчанскай гміне і прынарваўскай ваколіцы „найбольшая шчыльнасць пражывання паэтаў”? Але яшчэ не ўсе яны паказалі плён свайго натхнення і працы, бо штогод паяўляюцца дэбютанты, таксама сярод немаладых аўтараў. Сёлета вылучаны бывалы народны шоумен, сват і брат, які выступаў у сямідзясятыя гады ў гурце «Сямяне», а і сёння вядзе розныя мерапрыемствы з гумарам, спевам і танцам — Янка Шыманюк. Ён жа сёлета вылучаны за свае сатырычныя вершы, разарваў наблізу юбілейную імпрэзу тэмпераментна і дасціпна сваім выступам. А былі і іншы майстры галасістыя, пераможцы «Дэбюту» ў слове — лаўрэат III месца ў другой групе, спявак з «Нараўчанак», сам з Альхоўкі — Мікалай Варанецкі, «Незабудка» з-пад Нурца (цяпер у Беластоку) Надзея Карчэўская (78 гадоў), якой хвалюючы тэкст успамінаў пра яе жыццё здабыў II месца ў прозе. Яна, бывшы маленькай, хадзіўшы ўжо нават у школу, ад ваеннага пераляку не магла слова сказаць. Дзякуючы малітве маці на Святой Гары «*загаварыла, а нават заспявала*»... Творы ўдзельнікаў, неабавязкова ў гэты раз узнагароджаных, становяцца народнымі песнямі, як вершы Мікалая Варанецкага (спяваюць іх між іншым «Цаглінкі») ці пушчанкі Валянціны Мядзведзь, цяпер з Беластока, якой словы да песень узяў гурт «Лайланд». Па першае месца ў гэты раз у прозе сягнула таксама былая жыхарка Семяноўкі Нараўчанскай гміны, нянечка ў гайнаўскім шпіталі Ірэна Лукша — «Палявая». Яе кароткі тэкст кранае душу, а расказвае пра тое, што аўтарка бачыць кожны дзень, пасярод прыроды і людзей. Пра гэта і пішуць аўтары, незалежна дзе жывуць і што робяць — як «Ясень» Кастусь Целушэцкі з Новага Ляўкова, што дабывае красу з драўніны, гаспадар і грыбнік, музыка і аніматар культуры «хутаранін» з Гарадка Янка Карповіч (падборка яго смачнай і спелай прозы будзе друкавацца ў прэстыжным часопісе ў Беларусі), гаспадыня і майстрыха, ткалля і каравайніца «Дачушка» Люба Саковіч з Юшкавага Груда і яе пляменніца «Зямлячка» Аля Ясвіловіч з Семяноўкі, земляробка. «Рукадзельніца» з Пляньты Галіна Бірыцкая, якой вышываныя працы паказваліся на 90 выставах, прывезла свае спелыя, прыгожыя і разумныя вершы разам з цудным кошыкам з роднымі кветкамі — папяровымі макамі, рамонкамі, куколямі і васількамі, які зрабіла на «малы» юбілей «Дэбюту» — такія кветкі не адцвітуць! Дзякуем! Пасвойску «Чорным хлебам» назваў сябе настаўнік Славамір Кулік з Гайнаўкі, а свойскі і звычайны, родны «Лісток» узяла на сваё імя Вера Русіновіч з Нарвы (вылучэн-





працяг ☞ 4



# Беларускі
## выбарчы таталізатар

У Беларусі стартанула чарговая выбарчая кампанія. Слова стартанула безумоўна тут занадта гучнае, але ж нейкі рух звязаны з выбарамі адбыўся. Камісіі створаны, акругі нарэзаны, назіральнікі, у тым ліку і я, назіраюць, пасяджэнні праходзяць, усё як у людзей. Вось толькі пераможцы яшчэ афіцыйна не аб'яўлены. Можна было б і аб'явіць. Мяркую, што ўсе яны ўжо вядомы, але ўсё павінна быць у свой час.

На мінулых выбарах у парламент гэта зрабіла незалежная прэса. І практычна без памылак. Абышліся нават без аналізу прадказанняў Настрадамуса. Сваімі сіламі адгадалі амаль усіх. Такой лёгкай загадкай было толькі тое, колькі апазіцыянераў прапусціць у наш славуты беларускі парламент. Я лічыў, што аніводнага. А адзін з сяброў камісіі, дзе я назіраў, сказаў, што прапусцяць двух. Паспрачаліся. Я прайграў дзесяць баксаў.

Не, я не шкадую тых баксаў. Галоўнае, каб гэтыя два ад апазіцыі напрацавалі на іх. Тады не так крыўдна будзе за сам факт пройгрышу, бо пацярпеў перш за ўсё мой аўтарытэт як палітычнага аналітыка. Пацярпеў публічна і ганебна, бо прайграў я сябру камісіі, якога лічыў прызначаным і які ў выбарах не разбіраецца і нават імі не цікавіцца. І калі я яго зараз сустракаю на вуліцы, то сарамліва апускаю вочы і бубню сабе пад нос:

— Падумаеш, адгадаў! Патрабую рэваншу!!! Я і на гэтых выбарах зноў буду назіральнікам. А ён зноў будзе сябрам камісіі. Нічога не мяняецца. Поўная беларуская стабільнасць. Таму я яго зноў сустрэну на выбарчым участку. І ў мяне з'явіцца шанц адыграцца.

Я на гэты раз рашуча настроены паспрачацца не толькі з гэтым, але і з іншымі сябрамі камісіі на гэты конт. І не толькі з камісіяй, а з усімі хто хоча. І буду стаяць на тым, што не пройдзе аніводзін апазіцыянер. А ў майго апанента, калі такі з'явіцца, ёсць над чым паламаць галаву. Цікава, якую ён выбярэ лічбу ад аднаго да сямі. Так-так, да сямі. Менавіта столькі кандыдатаў вылучае ўся аб'яднаная апазіцыя ў гарадскі савет па горадзе Гародня на ўсе трыццаць акругаў. Атрымліваецца — адзін апазіцыянер на 4,285 акругі. Лічба пададзена з лёгкім акругленнем на карысць апазіцыі.

Не падумайце толькі, што я даю гэтыя максімальна дакладныя лічбы для таго, каб кінуць цень на нашу апазіцыю. Ні ў якім разе! Я і сам апазіцыя! І неяк нават быў у ганаровым спісе 200!!! Ну тут я канешне загнуў пра „ганаровы”. Ну не такім ужо і ганаровым з'яўляецца той спіс. Праўда, на той час я думаў, што ён такі. Ох як мы змагаліся за тое, каб туды патрапіць! Конкурс быў большы, чым на самую прэстыжную пасаду. Калі нехта забыўся, то я нагадаю, што „Спіс 200” быў зацверджаны аб'яднанай апазіцыяй, а сама лічба азначала 200 самых лепшых і паважаных народам апазіцыянераў, і што толькі яны маюць права балатавацца ў парламент ад імя апазіцыі! Вось нагадаў! Ну а пра тое, што ніхто з гэтых лепшых у парламент не патрапіў, я нагадваць не буду. Вы і так пра гэта ведаеце.

Ну дык вернемся да нашых лічбаў. Лічбы я даю не для таго, каб паказаць слабасць або мудрасць апазіцыі, нас, значыць, разам са мной уключна, а выключна для майго апанента, які адважыцца паспрачацца са мной пра колькасць апазіцыянераў у новым гарадскім савеце Гародні. Так што стаўкі прымаюцца. Спяшайцеся. Шанцы выйграць у маіх апанентаў гэтым разам вельмі высокія, бо выбары адбудуцца 18 лютага 2018 года. Адны васямнаццаткі. А для мяне гэта не самая шчаслівая лічба. Баюся, што я прайграю ўсім, незалежна ад таго, якую лічбу ад аднаго да сямі выбярэ мой апанент. Баюся што я прайграю нават, калі ён выбярэ лічбу восем.

Толькі перад тым як прымаць стаўкі, трэба злётаць і высветліць як афіцыйна зарэгістраваць гэты таталізатар. Вось дапішу і пабягу высвятляць. У нас з гэтым строга. І ўвогуле не ведаю, ці гэта мажліва. Ну а калі немажліва, то тады гэта будзе мой выбарчы наказ будучым дэпутатам, каб яны легалізавалі беларускі выбарчы таталізатар. Перакананы, што гэта стане самай улюбёнай гульнёй усіх беларусаў, нават тых, хто яшчэ не дарос да выбарчага ўзросту.

Вось хай будучыя дэпутаты і папрацуюць над легалізацыяй гэтай ідэі. На іншыя ж пытанні ў іх усё адно паўнамоцтваў не хапае. Ды і на гэтае хіба таксама...

**Віктар САЗОНАЎ**

# «Гыгэна»

Слова «гігіена» лучыцца ў маёй памяці з успамінам маёй пані прафесар, чалавека мудрага і нават чароўнага. Яна вымаўляла, цалкам усведамляючы свой камізм, але зусім бездапаможная пры моўнай звычцы так: «гыгэна.» Так вось «гыгэна» паводле яе, пачыналася ад галавы. «Гэта ў ёй залягае бруд, яго мылам не вымыеш», — казала. Я павінен прызнаць, аднак, што яе стаўленне да асабістай гігіены было асаблівым. Ад яе пахла заўсёды добрымі духамі, верагодна, французскімі, але яе прычоска, што вісела ў струках, цалкам яе не хвалявала.

Пра «гыгэну» прыгадаў я нядаўна падчас пакупак у Нарве. Знаёмая прадаўшчыца паглядзела на мяне, і аж схапілася за сваю галаву. «Што з вамі? Выглядаеце як Смерць!» — «О, прабачце. Я нічога не магу зрабіць, што яна такая падобная на мяне. Але не хвалюйцеся, я тут сёння толькі па хлеб...» — «Цьфу, цьфу!» — я пачуў гук яе забабоннай замовы, калі накіраваўся ў бок паліц крамы. Хлеб быў, але нясвежы. Я паклаў яго ў кошык — што ж мне засталося? Праз момант пачуў прымірэнчы голас прадаўшчыцы: «Рэкамендую селядцы. Сёння давезлі іх, дык пэўна яны свежыя...». Ну, добра, купіў я кілаграм селядца. І хлеб. Чэрствы. Калі ён чэрствы, дык пэўна без хіміі... На жаль, з калякі пачаў даставаца непрыемны смуродзік. Хутка я паехаў дадому. Прызнаюся, што мне было цікава, як гэта выглядае Смерць. Я паглядзеў у люстэрка. Ну, нядобра! Нядобра ён выглядае. Пашча худая, бледная, вочы згашаныя, а рэшта прадаўгаватай самасці адлюстраванай у люстэрку такая нязграбная, кашчавая... А яшчэ два гады таму я кіпеў энергіяй. Косткі хаваліся пад цяглiцамі. У вачах гулялі радасныя ўспышкі. Я жыў. У мяне не было часу, каб таропіцца ў люстэрка. Успомніўшы, што яго адлюстраванне адварочвае бакі, прымушаючы да інтэлектуальнага высілку, каб вярнуць у розуме належны стан рэчаў, я палічыў за лепшае засяродзіць усю сваю ўвагу на рэальнасці. Фактычна, не была яна такая простая. Але не абарочвала нічога на другі бок. Тое, што было злева, было злева, а правае — справа. Але ў польскай палітыцы, як і ў нарваўскай краме, паявілася новая пастаўка тавараў... ідэалагічных. Права і справядлівасць, добрая змена, відавочна відавочнасць, смаленская праўда і такое вось. Новыя... што не значыць, усё ж, што свежыя. Ужо тады пачало смярдзець. З часам смурод стаў невыносным. Доўга не адчуваў яго, чуючы толькі глыбокі псіхалагічны дыскамфорт. З ім прагрэсавала мая фізічная дэградацыя. Калі я прывёз з крамы памятныя селядцы, я спачатку думаў, што смярдзяць толькі селядцы. Так, селядцы — нібыта свежыя, і ўсё ж падгнілыя. Але перш за ўсё, я ўсвядоміў, што гэта смярдзіць рэальнасць. Нават не падумаў бы, што рэальнасць можа пранікаць смурод больш жудасны ад распаўзаючыхся ў пальцах папсаваных селядцоў. Смурод жорсткасці, цынізму, вульгарнасці, а можа хамскага невуцтва ўжо пераўзыходзіць усе нормы палітычнай «гыгэны». І маёй асабістай талерантнасці да ўсёахопліваючага бруду і пасродкавасці. Хопіць гэтых люстэркаў! Я ўсебакова абнюхаў рэальнасць такую, якая яна ёсць. Ужо нават у прыстойнай краме прапануюць сваім кліентам гнілыя селядцы! Гэтага не было раней. Але яшчэ раней, праўда, было падобна. Пры «камуне».

З гігіенай бывае па-рознаму Нядаўна я наведаў некалькі вёсак (прабачце, але не буду згадваць іх па імені) у Нарваўскай гміне. Прызнаюся, што быў уражаны кантрастам, які бачыцца паміж «маёй» вёскай, і тымі, у якіх пабываў — пранізлівым кантрастам. З гонарам паведамляю, што «мая» вёска клапоціцца пра гігіену як мала якая. У гэтым слове я хацеў бы таксама захапіць такія паняцці, як эстэтыка, прыгажосць, акуратнасць, чысціня. Я адзначаю, аднак, што я маю на ўвазе яе матэрыяльную эманацыю. Людзей, жыхароў не ўключаю. Гэта зусім не азначае, што яны брудныя, ці звонку, ці ўнутры. У любым выпадку, розніца паміж вёскамі такая як паміж відным арабам з конскага завода ў Янаве-Падляшскім і ўкачаным у брудзе рабочымканягай сакольскай пароды. Хоць гэтае параўнанне з'яўляецца дастатковым, так як коней на Падляшшы, за выключэннем тых на каніну і што пасвяцца сезонна на прынарваўскіх лугах, на самой справе няма. Тым больш у «маёй» вёсцы. Ва ўсякім разе, кароў тут таксама няма. Паміж платамі бадзяецца некалькі дэкаратыўных авечак і курак. Няма тут гаспадароў, толькі жыхары — ці то вёскі, ці ўжо скансэну. Другія вёскі — жывыя, поўныя балагану, але з жывёлай і стомленымі людзьмі. Ды яны «гыгенічныя», як казала мая прафесарка.

**Міраслаў ГРЫКА**



Сваімі вачыма

**Яўген ВАПА**

# Ёсць такі дзень

Ёсць чацвёртая пад раніцу — словы проста быццам з песні майго любімага Леанарда Коэна. Падымаюся з ложка ў задворках Белавежскай пушчы. Падаюся на шпацыр, паколькі хачу проста паспакайнець ад эмоцый, якія цягнуцца за мною апошнімі гадзінамі і днямі. Нейк так дзіўна пачынаю сябе адчуваць, бо што раз больш думаю пра імгненнасць свайго зямнога прамінання. Гляджу на дрэвы, якім больш за маіх пяцьдзясят з лішнім, а якія яшчэ будуць расці ўверх і ўшыркі. Толькі злыя ветры могуць выверхнуць спакой пушчанскай годнасці. Гляджу і задумваюся над ціхімі-ціхімі словамі, якія патрапілі ў літаратурную прастору. Іду па дарозе, якая вышлае на сабе жывёльную і чалавечую мітусню. Быццам зімовая пара, а тут з раніцы цёпла — адчуваецца восеньскі пах паветра. Нейк аўтаматычна пачынаю думаць, што яшчэ могуць расці грыбы — зялёнкі.

Кожнаму марыцца сваё. У кожнага свая літаратура. Задумваюся над нашым падляшскім кусочкам свету, у якім можа сцішана адысці ў забыццё беларускае слова. Слова на дарозе, быццам стральцоўскае сена на асфальце. Як гэты свет будзе выглядаць без натуральна-прыроднага беларускага гуку? Гуку размоў, сварак, хрысцін ці пахаванняў. Гуку штодзённасці, а не толькі на ўроку беларускай мовы. Можа гэта цемра дасвітку прыносіць і змрочныя думкі пра наш лёс. Перад вачыма і ў галаве ўзнікаюць пытанні пра тое як быць і выжываць нашаму тыднёвіку. Ці «Ніва» ў змозе выграваць чарговы год з так мізэрнай датацыяй? Таму, Шаноўныя Чытачы, у гэтым месцы прыводжу фрагмент свайго ліста ў Міністэрства ўнутраных спраў і адміністрацыі наконт фінансавай сітуацыі тыднёвіка:

«Zaproponowana przez Państwo kwota nie jest w stanie zabezpieczyć płynnego wydawania naszego tygodnika i sprostania chociażby zobowiązaniom wynikającym z urealnienia płatności finansowych wobec takich instytucji jak ZUS, czy Urząd Skarbowy, wynikających między innymi ze zmian w ustawodawstwie pracy. Od 2008 r. obserwujemy systematyczne zmniejszanie środków finansowych na naszą redakcję i obecnie proponowana kwota jest na poziomie najniższym od 2006 r. Poniżej przedstawiamy Państwu zestawienie tych dotacji na przeciągu ostatnich dwunastu lat.

| | | | |
|---|---|---|---|
| Rok | 2006 | - | 593.776,00 |
| Rok | 2007 | - | 594.000,00 |
| Rok | 2008 | - | 537.300,00 |
| Rok | 2009 | - | 494.000,00 |
| Rok | 2010 | - | 480.300,00 |
| Rok | 2011 | - | 492.000,00 |
| Rok | 2012 | - | 495.000,00 |
| Rok | 2013 | - | 492.000,00 |
| Rok | 2014 | - | 470.500,00 |
| Rok | 2015 | - | 492.000,00 |
| Rok | 2016 | - | 492.000,00 |
| Rok | 2017 | - | 495.000,00 |
| Rok | 2018 | - | 470.000,00 |

Z powyższego zestawienia wynika, że wykonywanie przez Radę Programową Tygodnika „Niwa” swojego najważniejszego zadania wydawanie tygodnika białoruskiej mniejszości narodowej na wskazanej przestrzeni czasowej spotyka się z coraz większymi problemami i ograniczeniami. Proponowana przez Państwa kwota dla gazety z 60-letnią tradycją i renomą w praktyce może oznaczać w 2018roku likwidację pisma niezwykle zasłużonego dla polskiej i białoruskiej kultury. Byłby to niezwykły chichot historii na obchodzone w przyszłym roku stulecie niepodległości państwa polskiego.

Odpwiedzialność za losy pisma, jego poziom dziennikarsko–edytorski, oraz wspaniały zespół redakcyjny nie pozwala mi zaakceptować Państwa propozycji i zgodzić się na na dalsze burzenie i obumarcie jednego z filarów istnienia każdej mniejszości narodowej – prasy w swoim języku ojczystym.

W związku z powyższym wnioskuję o zwiększenie dotacji na wydawanie tygodnika „Niwa” w języku białoruskim na 2018 r.»

**Z poważaniem**

**Do wiadomości:**

- Helena Podgórska – Naczelnik Wydziału Departamentu Wyznań Religijnych oraz Mniejszości Narodowych i Etnicznych
- Przedstawiciele mniejszości białoruskiej w Komisji Wspólnej Rządu i Mniejszości Narodowych
- Posłowie Sejmu RP

# XIII Мастацкія сустрэчы школьнікаў

**Падчас XIII Мастацкіх сустрэч школьнікаў, якія 26 лістапада ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы арганізавалі Аб'яднанне «Наша школа», якое дзейнічае пры Комплексе школ з дадатковым навучаннем беларускай мове ў Гайнаўцы і Гайнаўскі белмузей, займальна запрэзентаваліся дашкольнікі, вучні гайнаўскіх падставовых школ, гімназій і белліцэя. Акцёры, спевакі і танцоры, разам каля ста навучэнцаў беларускай мовы, цікава паказалі свае ўмеласці перад шматлікай публікай. Паглядзець прэзентацыі па-беларуску прыбылі ў кіназалу белмузея бацькі дзетак, бабулі і дзядулі, іншыя сямейнікі і староннія гайнавяне, якім цікавы былі выступы з беларускім словам і танцамі.**


Танцавальны калектыў дзяўчат Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы танцуе «Лявоніху»


Пастаноўка «Кірмаш» у выкананні дзетак Самаўрадавага прадшколля № 1 у Гайнаўцы


Вучні трэціх класаў Пачатковай школы № 2 у Гайнаўцы выступілі з інсцэніроўкай да песні «Бульба»

Падчас трынаццатага выпуску сустрэч выступленні са сцэнкамі перапляталіся са спевам беларускіх песень, прэзентацыяй народных танцаў і дэкламацыяй. На беларускае мерапрыемства прыбылі гайнаўскі бургамістр Ежы Сірак, дырэктар Гайнаўскага белмузея Тамаш Ціханюк, намеснік дырэктара белліцэя і белгімназіі Ніна Лукасік, дырэктар пачатковых школ — № 4 Бажэна Маркевіч і № 3 Галіна Пустэльнік, настаўнікі беларускай мовы і іншых прадметаў школ Гайнаўкі і Белавежы. Мастацкія сустрэчы школьнікаў арганізуюцца ў рамках праекта «Прыгранічны этнічны альянс», які фінансуецца ўладамі горада Гайнаўка. Сустрэчы вёў іх галоўны арганізатар, настаўнік беларускай мовы ў белліцэі Янка Карчэўскі, старшыня Аб'яднання «Наша школа», якое дзейнічае пры белліцэі.

— Радуе мяне, што рэпертуар сустрэч вельмі багаты і разнародны. Прэзентуюць яго шматлікія дзеткі і моладзь. У мінулым годзе я тэлефанаваў настаўнікам беларускай мовы і распытваў, з якім рэпертуарам будуць выступаць. У гэтым годзе настаўнікі самі тэлефанавалі мне і заяўлялі пра ўдзел сваіх вучняў у мастацкіх сустрэчах. Шматлікая публіка дае падставу меркаваць, што арганізаванне выступаў дашкольнікаў і вучняў з беларускім рэпертуарам патрэбнае. Мастацкія сустрэчы школьнікаў трэба арганізаваць у будучыні, — сказаў **Янка Карчэўскі**.

Дырэктар белмузея Тамаш Ціханюк уручыў настаўнікам беларускай мовы, якія рыхтавалі вучняў і дашкольнікаў да выступаў, кнігі «Гісторыя беларусаў Падляшша», выдадзеныя Беларускім гістарычным таварыствам. Першым займальна запрэзентаваўся танцавальны калектыў дзяўчат Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы, які з вясны гэтага года вучыцца беларускім народным танцам пад наглядам Вольгі Вілюк. Белліцэісткі і белгімназісткі захапілі публіку беларускімі народнымі танцамі. Сабраных таксама захапіў вакальны калектыў Гайнаўскага белліцэя «Знічка», які ўжо дваццаць два гады ўдала прэзентуе беларускі рэпертуар. Мастацкі кіраўнік белліцэйскага калектыву Бажэна Вінцонак развучвае з дзяўчатамі і хлопцамі са «Знічкі» штораз новы рэпертуар і пастаянна рыхтуецца да выступаў падчас «Сустрэч з праваслаўнай калядкай» у ГДК і фестывалю «Беларуская песня». Пастаноўкай «Кірмаш» зацікавілі сабраных дзеткі з Самаўрадавага прадшколля № 1 у Гайнаўцы, якіх падрыхтавалі настаўніцы Міраслава Ніканчук і Ала Супрун, а таксама інструктар па народных танцах Вольга Вілюк. Дзеткі прадавалі на кірмашы вырабы, гаварылі прымаўкі, спявалі і танцавалі. Іх шчырыя дзіцячыя выступы асабліва спадабаліся публіцы.

— Танцавальная група ў Гайнаўскім белліцэі, з якой я займаюся, запрэзентавала вянок беларускіх народных танцаў, а закончым мы выступ славутай «Лявоніхай». Каб іх развучыць вучні мусілі доўга трэніравацца. Дзяўчаты хочуць вывучыцца народным танцам і відаць прагрэс у іх умеласцях. Дзеткі з прадшколля паказвалі, як калісь гандлявалі на кірмашы. Я вучу іх крокам народных танцаў. «Трасуху» запрэзентавалі яны побач нашых прымавак і песень, — сказала інструктар **Вольга Вілюк**.

— З вясны танцавалі з намі хлопцы, але зараз яны заняты падрыхтоўкай да матуральных экзаменаў, а да танцавальнага калектыву далучыліся новыя дзяўчаты. Мы змаглі развучыць новыя беларускія народныя танцы. Пані Вольга ўмее ствараць добрую атмасферу ў нашай танцавальнай групе і звяртае ўвагу на розныя дэталі, каб добра атрымаліся нам выступы з рознымі танцамі. Я люблю танцаваць і вельмі добра адчуваю сябе ў танцавальным калектыве, як і іншыя нашы дзяўчаты, — сказала **Наталля Васько**, якая ўжо трэці год займаецца таксама ў белліцэйскім калектыве «Знічка» і была рада, што спявала таксама ў час сустрэч школьнікаў. — У «Знічцы» ўжо звыш два гады спявае наша асноўная група і можам развучваць штораз больш складаны беларускі рэпертуар.

Займальна запрэзентаваліся перад публікай вучні трэціх класаў Пачатковай школы № 2 у Гайнаўцы з інсцэніроўкай падрыхтаванай да песні «Бульба». Дзяўчаты выступілі ў прыгожых уборах, стылізаваных на народную беларускую вопратку і запрэзентавалі цікавае сцэнічнае афармленне да песні. Яго аўтарам, як і аўтарам усёй інсцэніроўкі, была настаўніца беларускай мовы Эва Іванюк.

— Важна, каб дзеткі праяўлялі актыўнасць, якая ім падабаецца, бо гэта заахвочвае да вучобы беларускай мове. Нашы вучні месяц рыхтаваліся да выступу, з дапамогай бацькоў прыдбалі адмысловую вопратку. Апрача свайго выступу могуць паглядзець таксама прэзентацыі іншых вучняў. Гэта яднае дзетак і моладзь, якія вучацца ў Гайнаўцы беларускай мове, — сказала настаўніца ПШ № 2 **Эва Іванюк**. Яе вучні цешацца, што маглі запрэзентавацца перад бацькамі і публікай.

Вучні раннешкольнай адукацыі ПШ № 1 у Гайнаўцы і першага класа ПШ № 4 у Гайнаўцы цікава спявалі беларускія песні.

— Большае колькасць навучэнцаў беларускай мовы ў нашай школе і разам з вучнямі рознымі спосабамі праяўляем актыўнасць. Тут у белмузеі добрая нагода запрэзентаваць беларускія песні, якім навучыліся на ўроках беларускай мовы, — заявіла настаўніца беларускай мовы ў ПШ № 1 у Гайнаўцы **Анна Франкоўская**.

— Тут у белмузеі асаблівая атмасфера і хаця спачатку было цесна ў кіназале і на калідоры, то варта тут прадаўжаць арганізаваць Мастацкія сустрэчы школьнікаў, — гаварыла настаўніца беларускай мовы ў ПШ № 4 у Гайнаўцы **Беата Кендысь**.

— Мне спадабаўся выступ сына і яго сяброў першакласнікаў, што вучацца беларускай мове і цікава паглядзець на іншыя выступы, — заявіў вікарны святар і заадно дырыжор хору Свята-Троіцкага сабора ў Гайнаўцы айцец **Павел Коршак**.

Пасля выступаў вучні ішлі са сваімі настаўніцамі на пачастунак.

Дзве групы беларускага вакальнага калектыву «Сунічкі» са Школьна-прадшкольнага комплексу ў Белавежы зацікавілі публіку сваім прыгожым спевам. Акампанемент традыцыйна састаўляў ім Марк Зубрыцкі.

— Нашы вучні ахвотна спяваюць беларускія песні. «Сунічкі» запрэзентавалі багаты беларускі рэпертуар, — сказала настаўніца беларускай мовы ў белавежскай школе **Анджаліна Масальская**, мастацкі кіраўнік «Сунічак».

Вучні ПШ № 3 у Гайнаўцы ўмела запрэзентаваліся з інсцэніроўкай да гавэнды «Як мужык жонку слухаць перастаў», а Паўліна Дзмітрук з гэтай школы цікава сказала верш «Таямніца бабулінага сундука». Беларускай мове вучыць у гэтай школе Марыя Крук.

— Я ахвотна дэкламую па-беларуску. Прымаю ўдзел у конкурсе расказчыкаў «Беларуская гавэнда». Мне падабаюцца выступы перад публікай, — заявіў **Міхал Зайкоўскі**, другакласнік ПШ № 2 у Гайнаўцы, які прадэкламаваў верш «Ровар». Яго мама, Кацярына Зайкоўская, заявіла, што Міхал сам ужо стараецца ацэньваць, ці тэкст падыходзіць яму да дэкламацыі і вучыцца дэкламаваць па-свойму. Апошнімі гадамі Міхал займаў першыя месцы ў конкурсе «Роднае слова» і прызавыя месцы на іншых конкурсах. Яго настаўніца беларускай мовы Аліна Якімюк падрыхтавала вучняў да выступу з інсцэніроўкай да песні «Ой ляцелі гусі з броду». З дапамогай настаўніцы і бацькоў вучні падрыхтавалі спецыяльныя ўборы да выступу.

Вучні пятага класа Пачатковай школы № 4 у Гайнаўцы з дапамогай настаўніцы беларускай мовы Людмілы Грыгарук удала падрыхтаваліся і цікава запрэзентаваліся з пастаноўкай «Кірмаш». Найбольш смеху выклікала выступленне вучня, які не быў перакананы да канца, ці прадае пеўня, ці зайца.

— Я стараюся, каб мае вучні выступалі з новым рэпертуарам. Рашыліся мы паказаць «Кірмаш» і моладзь ахвотна рыхтавалася да выступу, — сказала настаўніца беларускай мовы **Людміла Грыгарук**.

На заканчэнне дзяўчаты з танцавальнага калектыву белліцэя займальна запрэзентаваліся з беларускім народным танцам «Лявоніха».

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

## Плянта не тая

Час няспынна бяжыць і многае вакол нас змяняецца. Найбольш заўважна змяняецца, між іншым, мая родная вёска Новае Ляўкова ў Нараўчанскай гміне, рака Нараўка, рэчка Баброўка, ставы і навакольныя лясы, у тым ліку даволі вялікі лясны абшар званы Плянтай. Не памянялася толькі сетка тутэйшых дарог.

Зараз Плянта гэта перш-наперш сасновы лес з ядлоўцам. Ліставых дрэў — бяроз і асін — таксама няшмат. Я памятаю Плянту яшчэ з высокімі стройнымі елкамі і тоўстымі соснамі (ясакарамі). Прыгожыя галінастыя сосны ў нязменным зялёным убранні раслі на пясчаным узгорку і пры дарозе, па якой уязджалі ў лес са старады ад вёскі Новае Ляўкова. Елкі з вялікімі шышкамі на верхніх галінах раслі таксама на ўзгорку пры дарозе, якая вядзе да сядзіб Скепкаў. Вялікія сосны раслі пераважна на ўзвышшах. Адно з іх, самае высокае, знаходзіцца ў канцы лесу, дзе пачынаецца вялікі прастор лугоў і сенажацей над некалі (60-70 гадоў таму) яшчэ дзікай завілістай рэчкай Баброўкай з балоцістымі берагамі ды сям-там з глыбокімі ямамі ў вербалозавым кустоўі. Паўвека таму было ў ёй многа рыбы (плотак, акунёў, шчупакоў, ды г.зв. мянькоў і ўюноў) ды ракаў.

Плянта — гэта быў, так мовіць, натуральны вялікі ды густы лес з урочышчамі Лісьня норы, Конскія могілкі і Макаровэ. Лес быў густы, цёмны і таму нашмат больш таямнічы. Была раўнавага сярод лісоў і зайцоў. Вяліся вавёркі, вожыкі і іншыя малыя жывёлы. З большай звярыны трапляліся козы і ваўкі. Лясных і балотна-водных птушак была процьма. Зімой і летам на дрэвах гучна стукалі дзюбамі дзятлы. У гушчарах старадрэвіны хаваліся ўдзень совы.

Быў гэта лес грыбны, можна сказаць, баравіковы. Вясной збіралі тут першыя грыбы — карычневыя смарчкі, летам жоўтыя лісічкі і самыя жаданыя крамяныя баравікі ды гусцянюкі (чырвонагаловцы), а восенню зялёнкі, падзялёнкі, рыжыкі і каўпачкі (у Цісоўцы называюць іх пахаламі), валовыя языкі і кані. У Плянту хадзілі таксама па ягады — чарніцы, брусніцы і журавіны. Тут цвіў белы і сіні кураслеп, сінія пралескі ды калматыя фіялетавыя сончыкі (анемоны). Пад восень зацвіталі фіялетавым цветам верасы.

Зараз пазарасталі густой травою дарогі (ды на іх уезджаныя некалі коннымі вазамі-жалезнякамі глыбокія каляіны), па якіх ганялі кароў на супольныя вясковыя пашы і ездзілі па сена на сенажацці. Заўважаю, што на працягу 70 мінулых гадоў не памянялася толькі адно — межы плянтаўскага лесу. Яны засталіся нязменнымі дагэтуль. У лесе высеклі самыя прыгожыя дрэвы. Ён стаў рэдкі і сумны. Няма ў ім тоўстых дрэў (былі яны арыенцірамі ў лесе). Іх „апрацавалі" на будматэрыялы. У некаторых месцах сякуць яго, як кажуць, «беспашчадна», пасля нас хаця б патоп. Зараз па голых палянках ганяецца халодны снежаньскі вецер.

## Запушчаныя равы ў Плянце

Вёска Плянта Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета складаецца з трох частак: дзве з іх раздзяляе чыгунка, трэцяя распаложаная даволі далёка ад чыгункі. У сяле пражываюць 154 чалавекі.

У сярэдняй частцы вёскі (яна побач чыгункі) цягнуцца прызабытыя равы. Яны зараслі травой і кустамі і ў іх поўна апаўшага лісця. Бягучы год маем з дажджамі. У Плянце стаіць вада ў равах ды зямля размоклая. У каго пад дамамі склепы (піўніцы), у іх прасочваецца і стаіць вада. Таму жыхары дамоў, ля якіх ёсць роў, патрабуюць каб яго давялі да парадку. У ім неабходна ссячы кусты і ачысціць ад мулу. Гэтую справу накіроўваем перш-наперш да солтыса і гміннай раднай, а яны няхай далей — да войта.

Варта дадаць, што пра ачыстку равоў і прапускныя трубы ў Плянце раней клапаціўся наш тамашні ніўскі карэспандэнт Уладзімір Клімюк (роў ёсць каля яго прыгожай драўлянай хаты). Зараз яго не стала і няма каму заняцца добраўпарадкаваннем равоў.

Янка ЦЕЛУШЭЦКІ

# Праца пры намагільніках



Можна сказаць, што ў жыцці, не толькі на гэтым свеце, мяняецца ўсё. Для прыкладу, свой выгляд мяняюць таксама могілкі. Людзі кіруюцца модай або нават практычнай выгадай. Інвестуюць у намагільныя помнікі тыя, хто можа сабе на такое дазволіць. Не заказваюць ужо тэрацавых намагільнікаў, а выбіраюць розныя каменныя. Прафесія каменячоса па тэраца занікае.

Размова з **Міраславам Васілеўскім**, 1967 года нараджэння, з Орлі, які разам з бацькам Уладзімірам цягам чвэрці стагоддзя вырабляў намагільнікі з грысу (са шчэбенева-мастычнага асфальтабетону).

— Каменячос гэта спецыфічная прафесія. Як у Вас гэта пачалося?

— Пачаткі былі такія, што мы каля 1990 года зусім не ўяўлялі гэтай працы. Аднак бацька, усебакова здольны майстар на ўсе рукі, працаваў на будоўлях і сам вырабляў шмат рэчаў.

Прыйшла да нас Сенька Тхарэўская, якая працавала ў гарбара Стэца ў Орлі. І пытае, дзе можна зрабіць намагільнік для яе памерлага мужа. Мая мама Аля, нядоўга думаючы, сказала, што можа яго зрабіць наш бацька, — смяецца размоўца. А бацька не меў пра гэта ўяўлення. Вярнуўся з працы ў кафлярні і здзівіўся. Але падумаў-падумаў, збіў форму. Залілі асфальтабетон. Не было ў нас машын для шліфавання і рабілі гэта ўручную — каменем, асёлкай і вадою. Бацька, калі стаўляў наш вялікі дом, усе падаконнікі і абіўку лесвіц шліфаваў уручную. Пасля змайстраваў самаробную машыну для шліфавання, нават шмат часу добра спраўлялася, асабліва ў ходзе гладжання бакоў. Пазней нам патрэбную машыну зрабіў на заказ слесар Сёма Здановіч.

А калі пакамплектавалі прылады то і праца набрала размаху. Зарэгістравалі фірму. Пачаткі былі цяжкія, кожны намагільнік трэба было працаёмка абрабляць. Я тады памагаў бацьку. Пасля набілі вопыт, асвоілі машыны, перайшлі на іншую тэхналогію.

— Вашу работу людзі цанілі, вы сталі папулярнымі...

— Калі людзі задаволены выкананым заказам, то і іншым рэкамендуюць. Такая праўда, такі рухавік. Але нельга было набраць работу і не выканаць тэрмінова. Бывала, што работа зацягвалася, бо і прылады псаваліся, а рамонт патрабаваў часу.

— Пасля стаўлянне на могілках.

— Спачатку не мелі чым вазіць, то гаспадары вазілі сваім транспартам. Пасля купілі «Жук», адзін, другі...

— Каменных намагільнікаў тады яшчэ не было?

— Ужо былі, але мала хто заказваў, бо дарагія былі. Кітайскі камень увайшоў на рынак крыху пазней. Прывозяць у частках або толькі сам камень. Маюць каменяломні. Кітайскі камень мае больш рэдкую структуру і ён слабейшы. Мяккі камень больш складаны для апрацоўкі. Яго шліфуюць, а пасля грунтуюць дзеля глянцу. Пасля, напрыклад цягам двух гадоў, мяняецца колер, чэзне бляск. Агульна камень уражлівы на сонца. Чым ён цвярдзейшы, тым даражэйшы. Ну і залежыць ад тэхналогіі шліфавання.

— Зараз заўважаецца, што большасць людзей стаўляе каменныя намагільнікі, шмат з іх гэта танныя намагільнікі з кітайскага каменю. Ці выраб з асфальтабетону ўжо аджыўся?

— Не зусім. Калісь стаўлялі адкрытыя асфальтабетонныя намагільнікі, зараз накрываецца іх панэлямі. Гэта дзеля выгады, а часта няма каму іх прыбіраць.

— Апошнім часам Вы працавалі ў адзіночку. Што вядзе да аджывання прафесіі?

— Памёр бацька. А гэта работа для дваіх. І дваццаць пяць гадоў працы таксама робіць сваё.

Размаўляў і фатаграфаваў
**Міхал МІНЦЭВІЧ**

# XX «Дэбют»

1 ☞ працяг

не) — якая малітоўным словам на роднай гаворцы вёскі Катлоўкі Нарваўскай гміны звяртаецца да Бога, Прыроды і Радзімы. Піша як дыхае ў роднай прыродзе другая Вера — Радзіванюк з Міхнаўкі («Куколь»), найстарэйшая ўдзельніца конкурсу. За большую літаратурную форму (раман) узяўся таксама спелы па гадах Уладзімір Сідарук з Кузавы («Волат»), які з родным словам ужо за шэсцьдзясят гадоў. Ад самага пачатку «Дэбюту» свае выдатныя творы прысылаюць былая прадаўшчыца Зіна Кандрацюк, настаўніца і аніматарка культуры Вера Масайла. У гэты раз Масайла-«Каліна» прыслала вершы і другі раз сцэнічны твор, які ставяць на сцэне гайнаўскія вучні. Сярод другой групы, ужо ў другой узроставай катэгорыі, з поспехам выступілі нядаўнія нараўчанскія гімназісткі, цяпер гайнаўскія белліцэісткі Магдаліна Бяляўская («Пупышка») — лаўрэатка першага месца ў паэзіі і лаўрэатка трэцяга — Наталля Васько. Шкада, што гэта адзіныя дэбютанты-ліцэісты, а маўчыць Бельск-Падляшскі, калыска аўтараў беларускага літаратурнага руху на Беласточчыне... З ліку ўдзельнікаў «Дэбюту» на працягу гадоў выйшлі аўтары (неабавязкова пераможцы), у якіх ёсць ужо свае кнігі, як, напрыклад, Юрка Буйнюк (прымаў удзел у «Дэбюце» яшчэ як вучань пачатковай школы) ці Кацярына Сянкевіч і іншыя, якія сталі журналістамі, філолагамі. Але кожны з удзельнікаў, сур'ёзна падыходзячы да свайго змагання з тым, каб трапна ў родным беларускім слове выказаць свае пачуцці і імгненні жыцця, з'яўляецца пераможцам. Таму вельмі важныя такія асабістыя сустрэчы аўтараў, прытым у большай кампаніі, з прызнанымі літаратарамі, прыбылымі на ўрачыстасць з літаратурнага семінара «Бязмежжа». У конкурсе не кожны можа атрымаць узнагароду, не трэба крыўдаваць. У творы кожнага аўтара можна знайсці перавагі і дасканаласці, таму пасяджэнне міжнароднай камісіі заўсёды бурнае, не кароткае, але справядлівае.

Конкурс «Дэбют» абвешчаны яшчэ з вясны. У «Ніве» засакрэчаныя тэксты чакалі да канца кастрычніка. Як штогод на падвядзенне конкурсу з'язджаюцца не толькі самі аўтары, але таксама іхнія бацькі, дзеці, мужы ці жонкі, настаўнікі і сябры.

Узнагароджаны таксама настаўнікі, якія заахвочваюць сваіх вучняў да працы са словам. Гэта Анна Кандрацюк са школы ў Нараўцы, Эмілія Грыка з Міхалова і Людміла Сегень з праваслаўнай школы святых Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку.

— Ёсць надзея, што вучні, якія сюды прыехалі і пішуць, не пакінуць творчасці, — адзначыла Анна Кандрацюк. — Памятаю час, калі Эмілія Грыка прыязджала сюды, бышы яшчэ маёй вучаніцай у Нараўцы. Цяпер яна настаўніца, і сама заахвочвае вучняў, рыхтуе іх, і гэта ёй атрымліваецца. Таму ёсць надзея, што вучні надалей будуць прабаваць свае сілы ў конкурсе «Дэбют», і не пакінуць творчасці.

Конкурс «Дэбют» падтрымаў міністр унутраных спраў і адміністрацыі, Маршалкоўская ўправа Падляшскага ваяводства і Саюз беларускіх пісьменнікаў.



Тэкст і фота **Міры ЛУКШЫ**

# Самба па-беларуску



**Як і дзе можна навучыцца, ды яшчэ і па-беларуску, самба ў Беластоку?**
**І не блытаць з танцамі! Хоць затанчыць на спартовым дыване, верагодна, усё ж такі давядзецца, калі Георгі Барысевіч ці Андрэй Возераў схопяць за кімано, каб паказаць чарговы эфектыўны, а часам і вельмі эфектны кідок. Спорт для тых, хто хоча навучыцца абараняць сябе голымі рукамі. Традыцыі самба (самбо — скарочана з рускай мовы «самооборона без оружия») прыехалі аднаўляць у Польшчу вопытныя беларускія трэнеры.**

**Адна з лепшых школ барацьбы ў свеце — у Беларусі**

«Мы многа ведаем пра гэты від барацьбы, але настолькі метадычна выкладаць могуць толькі трэнеры з Беларусі, дзе адна з лепшых школ самба ў свеце», — пераканаы дырэктар беластоцкага спартовага клуба «Бесціос» Марэк Парыцкі. Таму ён запрасіў даўняга сябра Георгія Барысевіча з Ляхавічаў патрэніраваць беластоцкіх дзяцей. Далучыўся да яго і Андрэй Возераў. Ён нарадзіўся ў сям'і вайскоўца ў далёкаўсходнім Петрапаўлаўску-Камчацкім, жыў у Магадане і Уладзівастоку, але лёсам было наканавана прыехаць у Беларусь. А цяпер, магчыма, і пераехаць у Польшчу, бо ў Пінску ён страціў працу пасля таго, як з-за недахопу фінансаў там закрылі секцыю барацьбы самба. Цяпер беларускія трэнеры спадзяюцца набраць у Беластоку хлопцаў і дзяўчат у спартовую секцыю і навучыць іх усім сакрэтам гэтай прыгожай і відовішчнай барацьбы.

**Самба завітае на Алімпіяду ў Парыж?**

Самба адносна малады від барацьбы. Ужо хутка яму будзе 80 гадоў. Яго прыдумалі пры Савецкім Саюзе як альтэрнатыву японскаму дзюдо. «Самба аб'яднала ў сабе лепшыя прыёмы з такіх відаў паўднёвых адзінаборстваў як грузінская чыдаоба, узбекскі курэш, азербайджанскі гюлеш ды іншых», — распавядае на ніадрэннай беларускай мове Георгі Барысевіч, колішні прызёр саюзных моладзевых спаборніцтваў, а зараз трэнер са шматгадовым стажам. «У Беларусі трэніраваў і дзюдо, але самба — гэта мая «першая любоў», — кажа ён і адзначае, што ў Беластоку бачыць велізарны магчымасці, каб менавіта самба стала папулярным сярод юнакоў і дзяўчат відам спорту. Пакуль самба не ўваходзіць у праграму летніх алімпіяд, але 2024 год можа стаць у гэтым плане прарыўным. Чакаецца, што менавіта на алімпійскіх гульнях у Парыжы, самба будзе прадстаўлена ўпершыню. «І тады не будзе патрэбы ў дадатковай прамоцыі ў Польшчы гэтага віду спорту. Нам не хапае часу хваліцца поспехамі, увесь час трэніруемся...», — сціпла адзначае Марэк Парыцкі.

**Самба — не шахматы**

«Калі будуць ахвочыя займацца самба, будзем ездзіць на спаборніцтвы ў Беларусь, пазнаёмлю іх з гісторыяй нашай краіны. Некаторы час я працаваў у турызме, таму з задавальненнем пакажу і раскажу пра Нясвіжскі замак, побач з маім домам месціцца сядзіба Тадэвуша Рэйтана, яшчэ ў 50 кіламетрах знаходзіцца сядзіба Тадэвуша Касцюшкі. Трэнер — у першую чаргу выхаваўца, а таму павінен вучыць не толькі абараняць сябе, але і дапамагаць дзецям пашыраць іх кругагляд», — кажа Георгі Барысевіч. «Самба — не шахматы, тут думаць трэба», — жартуе ён, тлумачыць тактыку вядзення паядынку з сапернікам і зноў цытуе словы свайго першага трэнера: «Любая праца ўзнагароджваецца!». «Калі ў дзіцяці будуць гарэць вочы, то спартовыя вынікі не прымусяць сябе доўга чакаць».



**Здароўе ўсё ж важней за медалі**

«Канешне, усе юнакі не стануць чэмпіёнамі, але ж выхаваць моцнага фізічна, духам і характарам чалавека — гэта мы гарантуем!», — запэўнівае Андрэй Возераў. Яшчэ больш важнае за спартовыя вынікі — агульнае фізічнае развіццё. «Чалавек — пачвара біялагічная, ёй увесь час патрэбны рух, — працягвае Георгі Барысевіч. — Вы паглядзіце што робіцца: дзіця ў школе сядзіць увесь дзень, прыходзіць дадому: і адразу да камп'ютара. Пасля нярэдка парушаецца каардынацыя, бачыў як у хлопца адначасова рука і нага ідзе, а потым у 25 гадоў інвалід. Не хачу пужаць бацькоў і кажу гэта не таму, што сам «фізкультурнік», а таму, што праблема фізічнага выхавання сёння ёсць ва ўсім свеце. З трэнерам пагаджаецца Марэк Парыцкі ды наракае, што раней ахвочых займацца было нашмат больш: «А зараз маем выдатную залу, якасны дыван, на якім праходзілі спаборніцтвы ў алімпійскім Лондане. Дзяцей жа заахвоціць займацца спортам становіцца ўсё цяжэй».

**«Магутны Бартэк» запрашае на трэніроўкі**

Ёсць у клубе «Бесціос» і свае чэмпіёны па самба. Як, напрыклад, Бартламей Нагурскі. Пяціразовы чэмпіён Польшчы, бронзавы прызёр чэмпіянату Еўропы, пяты на чэмпіянаце свету — гэта асноўныя з яго дасягненняў у самба, дзе ён выступае ў цяжкай вазе. Бартэк, як яго называюць трэнеры, лепшы прыклад таго як пот і сінякі на трэніроўках пераўтвараюцца ў знакамітыя вынікі. Ён займаўся многімі відамі спорту, але нездарма спыніўся менавіта на самба, і трэніруецца ў клубе «Бесціос» ужо 6-7 гадоў. «У здаровага, моцнага, упэўненага чалавека і ў паўсядзённым жыцці ўсё складваецца куды лепш», — заахвочвае асілак прыходзіць і трэніравацца побач з ім.

Тэкст і фота **Яўгена ІВІНА**

# На рэабілітацыйным адзяленні (12)

У «Ракітніку» заняткі і практыкаванні праходзяць па распісцы. Усё працуе тут быццам бы ў швейцарскім гадзінніку.

Напрыклад, у пятніцу 25 жніўня я праваронію ды спазніўся на дзесяць хвілін на лазернае абпраменьванне. У маю чаргу ўступіў Ёзік з Беластока. Абышлося мне гэта гадзінай штрафнога чакання. Калі я раздумваў на калідоры, чым бы тут заняцца, дык падышла да мяне пані Яніна Серадынская і кажа:


Яніна Серадынская, фота аўтара

— Марыя гаварыла, што цікавіцеся мінулым, — затым дабавіла, — дык можа я крышачку раскажу.

— Вы з Гайнаўкі? — пытаю.

— Не, з-пад Клюкавіч. Дакладна нарадзілася я на калёніі Столбцы. На ўсходнім памежжы. Пяць кіламетраў ад Клюкавіч. Да вайны адзін год вучылася. Да Клюкавіч далёка было хадзіць у школу. Не пайшла. Пасля вайны ў Столбцах яшчэ тры гады вучылася. Чацвёрты клас закончыла. Вёска змешаная, жывуць у ёй папалам праваслаўныя і каталікі. Але дружна жылі. У царкву і касцёл уперамешку хадзілі — раз у касцёл, у наступную нядзелю ў царкву. У нас быў вялікі дом. Як была паненкай, дык забавы ў нас ладзілі. У 1948 годзе выйшла замуж у Гайнаўку за Зыгмунта Серадынскага. Працаваў ён на вузкакалейках пуцявым абходчыкам. Я дзевяць гадоў працавала швачкай у кааператыве інвалідаў. Свайго дома не мелі, наймалі кватэру. Нажылі пяцёра дзетак, адно памерла. Самы старэйшы сын 1948 года нараджэння, наймалодшая — 1962 года. Калі жаніла старэйшага сына, дык я на Хімічнай завяршала сямігодку. Мужык памёр, не дачакаўшы саракапяцігадовага стажу. Засталася ўдавіцай. Дачакалася васьмярых унукаў і адзінаццаці праўнукаў. Здароўе, дзякуй Богу, служыць. Слых у мяне дасканалы ды і ногі самі рвуцца да танца, — з усмешкай завяршае аповед 89-гадовая сеніёрка Яніна Серадынская.

**Запісаў: Уладзімір СІДАРУК**

# Хібы ў вулічным электраасвятленні

Прыйшла восень — маем ужо лістапад — і насталі доўгія вечары ды ночы. Раней чымсьці летам пачалі ўключаць вулічнае электраасвятленне. Як зараз аказалася, не свецяць некаторыя электралямпачкі. Яны перагарэлі яшчэ летам, але гэтага не заўважылі, тады дні былі доўгія а ночы кароткія ды ясныя.

Гэтакія хібы ў вулічным асвятленні выступаюць у шматлікіх вёсках у Нараўчанскай гміне Гайнаўскага павета, між іншым, у Новым Ляўкове, Старым Ляўкове і ў Плянце. Некаторыя электралямпачкі то гараць-гараць, то гаснуць а праз нейкі час запальваюцца ды зноў гаснуць. Як на некаторых дыскатэках. Але там так запраграміраванна.

Так, што пара завінціць новыя электралямпачкі на тых слупах, на якіх ужо не свецяць. Справу накіроўваем войту Нараўчанскай гміны. Ён пазаве электраманцёраў і справе канец. **(яц)**


Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Хто піша — той расце!

Парадаваў нас удзел ажно 21 школьніка ў літаратурным конкурсе «Дэбют». Сярод іх ёсць спадзяванні на творчы рост. Некаторыя, як Вікторыя Патонец, сталі ўжо другі раз лаўрэатамі. На конкурс піша з другога класа пачатковай школы. І можна сказаць, што яе вершы вырастаюць разам з ёй, з дзіцячых вясёлых рыфмаванак змяніліся ў вершы пра балючае падрастанне, час, свабоду. Добра чытаецца калектыўная праца гімназістаў з праваслаўнай школы ў Беластоку. Праўда, найбольш адчуваецца тут творчы стыль і спосаб думання Веранікі Кардзюкевіч, якая ўжо паспела захапіць Віктара Шведа, які прысвяціў ёй асобны верш. Пра творчае развіццё можна гаварыць у нашых цудоўны сяброваk Магды Бяляўскай і Наталлі Васько, якія ўжо чарговы раз апынуліся сярод дарослых лаўрэатаў. Вялікім сюрпрызам для нас стаў дэбют настаўніцы Ганны Кандрацюк з Нараўкі, якая захапіла сваімі вершамі камісію і публіку, сабраную ў беластоцкіх «Сподках». Пані Ганна — былая настаўніца Магды і Наталлі, а таксама настаўніцы Эміліі Грыкі з Міхалова. Зараз высветлілася адкуль такі творчы патэнцыял Нараўкі. Напэўна на гэты феномен спрацавала любоў настаўніцы да роднай мовы і тонкае адчуванне літаратуры. Шмат аўтараў не атрымала прызавых месцаў, але яны напісалі цікавыя творы, якія з прыемнасцю прадставім у «Зорцы» і «Ніве» нашым чытачам.


Удзельнікі конкурсу з настаўніцамі Людмілай Сегень і Эміліяй Грыка

А вось цесны спісак сёлетніх лаўрэатаў, якіх прыкмеціла журы ў саставе Надзея Артымовіч, Юры Плютовіч, Янка Трацяк.

У паэзіі першае месца зававала **Маргарыта Садоўская** з Шымак (Гімназія ў Міхалове), другое — **Вікторыя Патонец** (Гімназія ў Нараўцы), трэція — **Алівія Кузьма** з Нараўкі і **Сільвія Грыка** з Міхалова. Вылучэнне атрымала дэбютантка **Мальвіна Банасюк** з Міхалова.

У прозе найлепшымі сталі гімназісты з Праваслаўнай школы ў Беластоку, якія працавалі пад кірункам настаўніцы Людмілы Сегень. Аўтары сяброўскага апавядання гэта **Вераніка Кардзюкевіч**, **Якуб Голец**, **Давід Ясюк** і **Аляксандра Лашэўская**.

Конкурс ужо дваццаты раз арганізавала рэдакцыя «Нівы». З гэтай нагоды ўсіх чакаў смачны торт.

**Зорка**,
фота Ганны Кандрацюк

Маргарыта САДОЎСКАЯ
Шымкі, ПШ у Міхалове

## Неба

Сяджу адна і думаю
Гляджу як месяц хаваецца
Ледзь, ледзь бачу
Але далей пішу
Зоркі прыгожыя
Суцяшаюць мяне
Месяц тут гаспадарыць
Але дзе ён?
Толькі святло маленькае бачу
І думаю зноў
І што?
Месяц прапаў...
Цяжка мне так
Я плачу
Слёзы льюцца
Прапаў і ўсё з сабою мне забраў.
Слёзы не памагаюць
Бо крыўда і сум у кожным з нас...

Алівія Марта КУЗЬМА
Тарнопаль, Гімназія ў Нараўцы

## Толькі чалавечая натура

Ты бачыш свет за акном.
Прыгожыя і змрочныя краявіды,
Мёртвую прыроду, жывыя істоты,
Часам мора колераў,
А іншым разам толькі бель і шэрасць.

Але калі ты вернешся да праўдзівага свету,
Ці не адчуваеш горычы?
Бачыш людзей, быццам бескалпотных,
Аднак стомленых і сонных.
Яны глядзяць на цябе
Праз прызму тваіх памылак і недахопаў.
– Ты маеш добра, – гавораць. – У мяне горш.
І ў гэта вераць.

Вікторыя ПАТОНЕЦ
Старое Ляўкова,
Гімназія ў Нараўцы

## Жаданне гаварыць

Зачынілі маладога хлопца,
Сказалі ціха сядзець, ціха існаваць.
Закрылі яму рот.
Сказалі рабіць позу, што яго няма.

І хацеў сказаць ім.
І хацеў уцячы.
І швы на вуснах хацеў разарваць,
Дабіцца свайго.
Не ўдалося.

## Бягучы 2017 год — год Тадэвуша Касцюшкі

**З гэтай нагоды мы прысвяцілі ўжо некалькі артыкулаў Тадэвушу Касцюшку — герою Польшчы, Беларусі і Амерыкі. Сёння вашай увазе прапануем знакаміты нарыс Уладзіміра Арлова «Паўстанне Тадэвуша Касцюшкі».**

**Якуб Ясінскі (1701-1794)**

У Беларусі паўстаннем кіраваў палкоўнік Якуб Ясінскі, якому тады было трыццаць тры гады. Ён хацеў вызваліць сялян ад прыгону, пісаў па-беларуску адозвы, дзе заклікаў змагацца за свабоду, роўнасць, братэрства.

Ясінскаму верылі простыя людзі. Падчас бою з царскімі войскамі каля вёскі Паляны да яго далучыліся сям сот сялян-касінераў.

Пад камандаваннем Якуба Ясінскага ў Беларусі дзейнічалі некалькі дзясяткаў паўстанцкіх атрадаў. На чале аднаго з іх стаў наш зямляк камандзір Міхал Клеафанс Агінскі. Кожны беларус ведае ягоны славуты паланэз. Сярод твораў Агінскага ёсць і «Марш паўстанцаў 1794 года».

Сам Ясінскі ўзначальваў атрад з чатырох тысяч ваяроў. Ён атрымаў над расійскімі карнікамі некалькі важных перамог. Касцюшка прысвоіў паўстанцкаму камандзіру чын генерала.

*(працяг будзе)*



Міколка Абрамюк з Беластока

Міхась Пазнякоў

## Кружацца сняжынкі

Хто там шустры скача?
Ціха снег рыпіць —
Гэта зайка з дачы
Праз лясок бяжыць.

Кружацца сняжынкі,
Нібы ў дзіўным сне.
Зайка для Дарынкі
Торбачку нясе.

А ёй — пажаданні
Добраю расці,
Быць заўжды старанна й,
Шчырай у жыцці.

Хоча ён з Дарынкай
Сам на Новы год
Хоць бы на хвілінку
Стаць у карагод.

(Байкі сярэднявечнай Арменіі)

## Вярблюдзік і ослік

Вярблюдзік і ослік плакалі і гаварылі сваім бацькам:

— Гора нам! Мы галадаем, а вось свінак увесь час ячменем кормяць.

А бацькі на гэта:

— Няма чаго зайздросціць, прыйдзе час — шкадаваць іх будзеце.

Прыйшла зіма і людзі сталі калоць свіней. Калі ослік і вярблюдзік пачулі жахлівы віск, іх апанаваў люты страх. Яны прытуліліся да бацькоў і пытаюцца:

— Чаго яны так вішчаць?

Бацькі завялі іх у двор, дзе смалілі свіней.

А яны паднялі свае капыткі і кажуць:

— Паглядзіце, ці не прыліпла хоць адно зярнятка да ног, а калі прыліпла, калі ласка, зніміце.

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

Алена ЦЕРАШКОВА

**Н**

Ніколі, нідзе,
нікаму, нізавошта
Не скажа Надзейка
пра казачны востраў.
Ён недзе ў сінім
ляжыць акіяне,
На ім кожны дзень
паспяваюць бананы,
Ніхто там не будзіць
у школу ўранні,
Ніякіх не робяць
там хатніх заданняў.
Хто там апынуўся
— з'язджаць не хацелі.
Наш казачны востраў
завецца Нядзеля!

**О**

Месяц рожкі паказаў.
То не месяц, а каза,
Што пагнала Сонца ў поле,
Ў ноч, і спаць само пайшло,
А на досвітку надоіць
Залатое малако.

**П**

Павучок пляце карункі,
Ўсё падстрэшша пераплёў.
Прылятайце, пачастункі,
Час палуднаваць прыйшоў!
Працаваў павук з ахвотай.
Толькі пуста ў тых цянётах...

## УВАГА КОНКУРС! № 51-17

**Дзве драўляныя пантоплі**
**Так падобны, як дзве кроплі,**
**Дзве пятлі, не для красы,**
**Два задраныя насы.**
**З горачкі бягуць па следзе,**
**А на іх дзяўчынка едзе.**
**Л...**

**(У. Мацвеенка)**

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 24 снежня 2017 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 48: брытва.**

**Узнагароды, кніжкі Міры лукшы «Спеў дрэў», выйгралі Наталля Петручук, Мая Тапалянская, Клаўдзія Ніканчук з Нарвы, Дам'ян Карнілюк з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

## Польска-беларуская крыжаванка № 51-17

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 47-17:**

Янтар, соска, эга, верабейка, гітара, лад, каралі, абарона, пік. Вілкі, лета, серада, гонар, сабака, як, ара, рог, экран, лак, ржа, Лі.

Узнагароды, каляровыя алоўкі, выйгралі **Аляксандра Аніськевіч, Наталля Гайдук** з ПШ № 1 у Гайнаўцы, **Амелька Васільчук, Наталля Габрусь, Дар'я Чарняўская, Оля Хіліманюк** з Нарвы, **Дам'ян Іванюк** з ПШ № 4 у Гайнаўцы, **Моніка Суровец** з Бабік, **Аляксандра Лушчынская, Кінга Леўша** з Нараўкі. Віншуем!

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Ona / Nos | As / Sanie | | | Beksa | Ptak | | Kosiarka / Morszczuk |
| | | | Senat | Joga | | | | |
| | Osioł / Śmiech | | | | | | | |
| Bałwan | | | | | | | | |
| Prze-chodzień | | | | | | | | Ach! |
| | | Nie | | Suka | | | | |
| Chatka | | | | | | Ach! | | |

**Браніслаў Тарашкевіч (1892-1938)** несумненна ўпісаўся ў гістарычную памяць беларусаў. Яго імя здаўна (пасля рэабілітацыі ў 1957 г.) знаходзіцца ў беларускіх энцыклапедыях. Біяграмы ў беларускай і польскай „Вікіпедыі" сведчаць пра яго прысутнасць таксама ў віртуальнай прасторы. Менавіта беларуская „Вікіпедыя" звяртае ўвагу на тое, што Браніслаў Тарашкевіч быў беларускім грамадска-палітычным дзеячам, мовазнаўцам і пісьменнікам-перакладчыкам. У польскай „Вікіпедыі" прадстаўляецца яго ў першую чаргу як беларускага палітыка, дэпутата польскага Сейма, старшыню Беларускага пасольскага гуртка, старшыню Беларускай сялянска-работніцкай грамады, грамадскага дзеяча, мовазнаўцу, перакладчыка, аднаго са стваральнікаў арфаграфіі беларускай мовы. Паказваюць яны шматграннасць зацікаўленняў і заняткаў Браніслава Тарашкевіча.

Лена ГЛАГОЎСКАЯ

# Ад беларускай граматыкі да палітыкі — Браніслаў Тарашкевіч у гістарычнай памяці (ч.ІІІ)

(працяг з Нівы № 50)

Аляксандра Бергман увяла Б. Тарашкевіча перад усім у беларускую гістарычную свядомасць у Польшчы. З чытачамі «Нівы» дзялілася яна сваімі знаходкамі і думкамі. Б. Тарашкевіч, як правадыр БСР Грамады, якая ў палавіне 20-х гадоў карысталася вялікай папулярнасцю на Беласточчыне, ставаў таксама блізкім нашчадкам былых грамадоўцаў. Таму з нагоды чарговых круглых угодкаў з дня нараджэння паяўляліся пра яго артыкулы ў «Ніве» і ў «Беларускіх календарах».



Фота Аляксея МАРОЗА

Зацікаўленасць А. Бергман Б. Тарашкевічам мела яшчэ і звычайнае людское, эмацыйнае вымярэнне. Калі ў 1989 г. у Маскве памерла другая жонка Б. Тарашкевіча Ніна Аляксандраўна, А. Бергман напісала пра яе ў «Ніву»: «Яе супольнае жыццё з Браніславам Тарашкевічам не працягвалася доўга — ад 1934 года да мая 1937 г., калі Браніслава Тарашкевіча і Ніну Аляксандраўну арыштавалі ў іх маскоўскай кватэры. Якія ж былі гэта гады! Мала сказаць: цяжкія. Усё, аб чым марыў Тарашкевіч, калі ў польскай турэмнай камеры, у 1933 г., даведаўся, што будзе абменены ў СССР, — усё знявечылася. Марыў аб працы ў Беларусі і для Беларусі — а мусіў жыць у Маскве, працаваць у Міжнародным аграрным інстытуце — ён, адзін з найбольшых беларускіх філолагаў, член Акадэміі Навук БССР. Марыў аб сустрэчы з сябрамі, таварышамі па барацьбе, а толькі пасля прыбыцця ў Маскву даведаўся, што ўсе дзеячы «Грамады» і «Змагання» — арыштаваны і палічаны агентамі польскай разведкі. Ці Ніна Аляксандраўна ўсведамляла сабе цэлую трагедыю сітуацыі? Адчувала яго боль. Рабіла ўсё, каб не адчуваў адзіноцтва, стварыла для яго сямейную атмасферу і стала для яго ў гэты страшны час самым блізкім чалавекам. (...) Якім дарагім быў для яе Браніслаў Тарашкевіч, ведаем таксама з яе гераічнага змагання, да апошніх дзён жыцця, за выратаванне літаратурнай спадчыны Тарашкевіча. Неадкладна пасля атрымання дакумента аб яго рэабілітацыі, ужо ў 1957 (!) годзе паехала ў Мінск з рукапісам яго перакладу «Пана Тадэвуша» Міцкевіча і на працягу многіх год змагалася за яго выданне, чаго нарэшце дачакалася. Праўда, працягвалася гэта 24 гады! Але — дачакалася. Гэты рукапіс выратаваны толькі дзякуючы таму, што схавала, яго ў сваёй сястры. У гэтым жа 1957 годзе Ніна Аляксандраўна пачала барацьбу за адшуканне калонак і машынапісу перакладу «Іліяды» Гамера на беларускую мову. (...) Варта тут яшчэ ўспомніць, што ў 1976 годзе Ніна Аляксандраўна гасцявала ў Варшаве, была госцем і Беластока. І што было для яе асаблівым перажываннем — наведанне Агульнаадукацыйнага ліцэя ў Бельску-Падляшскім імя яе мужа. (...) Яе прыезд да нас прынёс ёй многа хвалявання, а нам паказалася цудоўнай і інтэлігентнай жанчынай, якая была для Браніслава Тарашкевіча не толькі добрай жанчынай, але і найбліжэйшым прыяцелем на цяжкім этапе яго жыцця».

А. Бергман падтрымлівала таксама сувязі з першай жонкай Б. Тарашкевіча — Верай Андрэеўнай Ніжанкоўскай. Упершыню едучы ў беларускія бібліятэкі і архівы ў канцы 80-х гадоў, атрымала я адрас В. Ніжанкоўскай з просьбай наведаць яе і перадаць падарунак ад А. Бергман. Мне не верылася на той час, што жонка Б. Тарашкевіча магла быць у жывых. Дзякуючы А. Бергман на працягу 10 апошніх гадоў яе жыцця я шмат разоў наведвала В. Ніжанкоўскую, дзякуючы якой гісторыя беларускага нацыянальнага руху і постаць яе мужа ставаліся жывымі. Жыла яна надзеяй на стварэнне музея ў сваім былым доме, які ўлады адабралі за савецкім часам. Разрысоўвала планіроўку, захоўвала экспанаты. Вера Ніжанкоўская памерла 6 мая 1998 г. так і не дачакаўшыся музея. Варта згадаць, што дзякуючы Аляксандры Бергман пасля яе смерці, на выдадзеныя ў 2005 г. «Лісты» М. Пецюкевіча, адгукнулася прафесар афтальмалогіі з Вроцлава Ганна Ніжанкоўская, якой сям'я, асабліва сын, гадамі шукалі звестак пра Уладзіслава Ніжанкоўскага, які расстаўся са сваёй першай жонкай і ажаніўся з Верай Тарашкевічыхай. Ад мяне даведаліся пра яго дачку Ірыну з Радашковіч і змаглі з ёй пазнаёміцца. Б. Тарашкевіч таксама стаўся ім блізкай асобай, вядомай як аўтар беларускай граматыкі.

У выніку да 125-х угодкаў нараджэння Б. Тарашкевіча можна задумацца над яго месцам у беларускай гістарычнай памяці. Часта пры ім паяўляюцца такія акрэсленні: «нязнаны», «забыты», што аддае яго прысутнасць у свядомасці беларусаў. «Для адных гэты чалавек — бацька беларускай граматыкі, для іншых — камуніст і агент Камінтэрна», — напісаў Ігар Мельнікаў. «Сярэдні малады мінчанін не ўмее сказаць зашмат і пра патрона (Б. Тарашкевіча — Л. Г.), а можа нават і нічога», — напісаў Мацей Халадоўскі ў беластоцкай «Ніве», апошні раз успамінаючы Б. Тарашкевіча ў 2015 г. пры нагодзе кастынгу да спектакля па п'есе Эльдара Бякірава «Браніслаў Тарашкевіч». П'есу пра Б. Тарашкевіча «Арышт» напісаў таксама свайго часу Сакрат Яновіч пад уплывам кнігі А. Бергман, якая выйшла ў Польшчы ў 1977 г. Пісаў яе на працягу 20 гадоў, а пасля паслаў у Акадэмічны тэатр імя Якуба Коласа ў Віцебск. Там яе паставілі пад загалоўкам «От цо да» і ў 2002 г. прывезлі ў Бельск і Гайнаўку на Беласточчыне. Прысутны на спектаклі аўтар сказаў: «Здзіўлены, гэта больш чым узрадаваны, бо жыццё Тарашкевіча — цэлая эпоха, мініяцюрны лёс усіх нас, лёс ад якога нельга ўцячы».

У 1958 г. Багдан Падоскі, следчы суддзя ў працэсе БСРГ, які праслухоўваў Б. Тарашкевіча, успамінаў яго: «Formalnym i faktycznym przywódcą Hromady był Bronisław Taraszkiewicz, poseł na Sejm. (...) Był jednym z twórców współczesnego języka białoruskiego i autorem jego gramatyki. Była to jednostka nieprzeciętna i ideowa. (...) Podkreślał, że pragnie, aby nie zaginęła prawda historyczna o pierwszej w dziejach narodu białoruskiego masowej organizacji politycznej. (....) Stwierdził, że jako działacz niepodległościowy białoruski naśladował świadomie Józefa Piłsudskiego, który walcząc o niepodległość Polski posługiwał się socjalistycznymi hasłami społecznymi, jako narzędziem do pozyskania mas ludowych dla idei niepodległości. Zastąpił on jedynie hasła socjalistyczne hasłami komunistycznymi, jako współcześnie bardziej, zdaniem jego, atrakcyjnymi. Natomiast jeśli chodzi o praktyczną akcję polityczną, Taraszkiewicz uznał za godną naśladowania metodę biernego oporu Gandiego i dlatego zdecydował się na propagowanie haseł niepłacenia podatków i odmowy rekruta. Jestem przekonany, że wyjaśnienia Taraszkiewicza były zgodne z prawdą i odzwierciedlały jego sposób myślenia".



**Анна КАНДРАЦЮК**, II група

### Мая паэзія

Мая паэзія нараджаецца ў болях.
Бачу дзіця, якое
Заікваецца ў словах,
Не чуе рыфмы,
Не бачыць сэнсу,
Накульгвае вобразамі.
Яно не пажыве доўга?

* * *
Лівень слоў
Паплыў па макіяжы.
Змяніў містэрную архітэктуру выгляду.

Некалькі горкіх слоў
Разбурыла таямніцу
І адкрыла скрываную рэчаіснасць.

Дзякуй Богу за слёзы!

* * *
Вобразы дзяцінства быццам вітраж
Парэзаны гадамі,
Быццам плёнка некаляровага ўжо жыцця,
Якую час пасыпаў пылам забыцця.
Памяшаў імёны з вобразамі,
Словы з пачуццямі,
Раскінуў кавалачкі.
Не ўмею іх скласці,
Бо час зрабаваў у мяне памяць.



**Магдалена БЯЛЯЎСКАЯ**, II група

### Адна

Хачу затрымаць час
і сярод іншых сэрц
слухаць толькі свайго,
хачу ўвайсці
на найвышэйшую гару
і крычаць на ўсе бакі,
хачу басаном бегаць
па травах,
без дзіўнага позірку людзей,
без іх слоў,
без іх думак.
Хачу стаць толькі на момант
адной...

### Сакрэты ночы

Калі зоры пакажуцца
на небе
а паветра вібруе
і глыбока ў цёмным лесе
ваўкі месяцу спяваюць,
дзесьці там вогнішча
вандроўцы гарыць.
Мелодыі нязнаных песень
абуджаюць сонную ноч.
Усе цені да танца
сабраліся
у сукенках сшытых
агнём.
Растапляюць гнеў
чалавечы.

### Студня

У цемры тваёй
зрок свой затапляю.
Бачу больш ад змроку —
пустэчу, холад.
Даўно ніхто сюды не
заглядаў.
Самота цябе запаўняе,
быццам туга такая
за даўнімі водамі.
І зразумець толькі
не магу,
чаму я ў цябе,
як у людскія вочы гляджу?..






**Мікола ВАРАНЕЦКІ**, II група

### У Дзень Перамогі

Кожны раз з году ў год
Адзначаю я Дзень Перамогі,
Кожны раз у гэты час
Я ваенныя песні пяю.
Кожны раз на экране
Бачу я франтавыя дарогі,
Па якіх батальёны
Днём і ноччу ішлі на вайну.

Я глядзеў на экран з сэрцам поўным трывогі,
Калі падае з ног майго войска салдат.
Лёгка мне на душы, калі ў Дзень Перамогі
Паднялі рукі ўгару гітлераўскі атрад.

Ой, як многа няшчасцяў на блакітным экране!
Дзякуй лёсу за факт, што ў міры жыву.
Кожны год буду я святкаваць Перамогу.
Буду славіць салдатаў, што калісьці пайшлі на вайну.

Памяць вечная тым, хто з вайны не вярнуўся,
Слава вечная тым, хто застаўся жывым!
Нізка кланяюся дарагім ветэранам —
Жывым сведкам далёкай і страшнай вайны.

Я баюся няшчасцяў і вайну праклінаю,
За жыццё і за мір руку я падымаю
І ў святочны маёвы дзень
Шклянку горкага віна выпіваю.

### Нараўка мая

Калі на сэрцы смутна мне,
Іду да Нараўкі я ў госці.
Над рэчкай сяду ў цішыні,
Рэчка падкажа сэрцу штосьці.

Нараўка, Нараўка мая,
Ты мілая мая сяброўка.
У шчасці й горы ты са мной,
А я з табой, мая старонка.

Мне без цябе нялёгка жыць,
Я без цябе не абыдуся.
Па вуліцах тваіх хаджу,
З табою разам вясялюся.

Нараўка – першы «горад» мой,
Мая ты гмінная сталіца!
Люблю цябе – куточак свой
І не ману не ганарыцца.

Мы неразлучныя сябры,
Мы дружна песню заспяваем,
Падхопіць нашу песню лес
І адгукнецца гай за гаем.

І паплыве песня з вадой.
Рэчкаю Нараўкай да мора...
Спявае «Нараўчанак» хор,
Бо Нараўка не знае гора.

Нараўка, Нараўка мая,
Ты лепшая мая сяброўка.
Заўсёды разам я з табой,
А ты са мной, мая старонка

### Мая Беларусь

Свет вялікі такі – не абняць,
А рукою падаць Беларусь.
Між Расіяй і Польшчай жыве
Сінявокая Белая Русь.

Беларусь, Беларусь, Беларусь,
Ты мне дзверы свае адчыні.
Беларусь, мая Белая Русь,
Прывітанне маё ты прымі.

Твае песні і думы са мной,
Твае мары, пагляды нашу.
За цябе так турбуюся я,
Бо кахаю цябе, Беларусь.

Беларусь, Беларусь, Беларусь,
Дабрыню мне сваю падары.
Беларусь, мая Белая Русь,
Ты, як маці, мяне абдымі.

Да цябе я на крылах лячу,
Для цябе сёння песні пяю.
Ты прымі мой сяброўскі паклон,
Дарагая мая, Беларусь.

Беларусь, Беларусь, Беларусь,
Ты мне ўсмешку сваю падары.
Беларусь, мая Белая Русь,
Да грудзей ты мяне прытулі.



**Наталля ВАСЬКО**, II група

### Цешыцца смерцю

Калі ты адзін
сярод мільярдаў людзей
Хто заўважыць
тваю ціхую смерць
Хто прынясе
жывую кветку на магілу
Хто праплача
ўвесь дзень і ўсю ноч

Ты проста
адно святло на небе
Міргаеш сабе
хуценькімі міг, міг, міг
Потым твой час
закончыцца цік-так
Сапсаваны гадзіннік
выкінуць у сметніцу

Калі не бачыш
не значыць, што няма
Жыві так
каб усе цябе бачылі
Жыві так
каб не толькі маці плакала
Жыві так
каб цешыцца смерцю

### Астранамічная метафара

Ты для мяне сонца...
Я для цябе планета,
якіх шмат на свеце.
Хачу быць бліжэй,
не баюся твайго цяпла —
агню, які знішчае.
Буду кружыць вакол цябе,
выпіхаць іншыя планеты
з іх слабенькіх арбіт.
Прыцягні мяне да сябе,
схавай вострае полымя,
хутка ўпусці мяне
ў сваю атмасферу.

Тады буду зорачкай
спадаючай для цябе.
Маеш адно жаданне --
няхай буду ім я...
Хачу бязбольна закончыць
унікальны тып любові.
Можам быць нармальнымі?
Не глядзець у тэлескоп?
Паглядзець у асаблівыя вочы?
Малюся і пытаю Бога:
Вернемся мы на Зямлю?
Хачу быць чалавекам —
не тваёй астральнай думкай.

### Паэтычны алкагалізм

І зноў пішу верш,
якога ніхто не зразумее.
Астаюся ў хаце,
шукаю натхнення —
цяжка жыць
такому паэту.
Няма думак,
слоў не хапае.
Гарэлкі напіцца
толькі астаецца.

# Мары-кашмары

— Сядзіш як дурны сам у хаце, — наракае Васька

Слухаю і не веру. Няўжо яму ў сваёй хаце кепска. Тут нарадзіўся і тут памрэ ў гэтым апусцелым канцы свету альбо, як хто хоча, жопе свету. Цэлых семдзесят пяць гадоў праследуе Ваську невыноснае адзіноцтва. Рана, яшчэ ваенным часам, страціў бацьку. Маці да самай смерці бедавала з двума сынамі. З дзяцінства не помніць нічога за выключэннем працы. Праўду кажучы, вайна адабрала яму бацьку, а праца — маму. Маці ніколі не апавядала яму казак перад сном, увогуле нічога яму не сказала. З дзяцьмі пагуляць таксама не адпускала. Грошай часам нават на запалкі не хапала і, каб натапіць печку, Ваську пасылалі да суседзяў за недапалкамі. Голад прыціскаў страшэнны. Галоўнай забавай Ваські, калі выганяў вясковае быдла на пашу, было распазнаванне пахаў варанай ежы. З-за гэтага бедавання нават радня ад іх адраклася. Святы не адрозніваліся ад будняў, тая ж цішыня, той жа пусты страўнік. Адным словам, узрастаў у забыцці не толькі людзьмі, але і самім Богам. Хочацца верыць, што юнацтва было крыху весялейшым. Можа дзяўчаты яго любілі, не быў жа такім астатнім. Працавіты, не курыў, не піў. Нават цяпер у сваіх семдзесят пяць гадоў выглядае дастаткова цікава. Можа буяніў з імі на жоўценькім, пясчаным беражку роднай рэчкі, альбо недзе на ажынах у сваіх месцах. Але ж ніколі не рашыўся на сур'ёзны крок, ніводнай не выбраў. Так і сядзіць сам у хатцы, чакаючы нечага. Затрымаў час. У доўгім і вузкім пакойчыку быццам кішка сядзіць на старым, аднаспальным тапчане і глядзіць праз старое акно на пустую брукаваную вуліцу. Яшчэ не засохлі засаджаныя яго мамай герані на падаконніках — у некаторых краінах сімвалы ўдавенства. Хату, не горшую ад іншых хат у вёсцы, паставіў прапаўшы назаўсёды бацька. Каменныя сходы, ток у вялікіх сенцах, замест званка — цяжкія, драўляныя дзверы, якія рыпеннем абвяшчаюць уваход — прошаны і няпрошаны. Кухня, абавязкова з печкай, прытым настолькі вялікай, што абагравае суседнюю спальную кішку. Драўляная падлога цягнецца адным бокам уніз, быццам прычаленая да берагу дзіравая лодка. Ёсць яшчэ пакой для гасцей з заўсёды зачыненымі французскімі дзвярамі. Усё гэта ў крыху запушчаным, кавалерскім выданні. Але апошнім часам нешта пачало мяняцца. Люда — сяброўка з дзяцінства ажно смяецца. Няўжо Васька надумаўся грош патрацiць. Закопчаныя сцены кухні абляпіў абоямі сярэбранага колеру, павесіў такія ж сярэбраныя заслонкі, кішку пакрыў серабром змешаным са снежнай беллю. Мабыць, наглядзеўся савецкіх казак пра Дзеда Мароза. У бліжэйшых планах ёсць і рэфармаванне пакоя для гасцей. Той жа Дзед Мароз падарыў яму новую двухспальную канапу і новы тэлевізар. Пустая канапа грэецца пад печкай, а тэлевізар выпендрываецца на святым месцы ў покуці. Па вясковай традыцыі Васька глядзіць толькі беларускія каналы. Не важна што, асноўнае, каб па-беларуску. Адкуль такія змены? Адказ можа быць толькі адзін. Васька моцна і шчыра закахаўся. Усяму вінавата Бася — вельмі сімпатычная, маладая і добра адукаваная дзяўчына з Варшавы. Гэта яна ўгаварыла Ваську зрабіць рамонт, нават клеіць абоі дапамагала. Разам з мужам апошнім летам купілі хатку цёткі Васіля, памалу яе рамантуюць, вядома, пры выдатнай дапамозе Ваські. Можна сказаць, што Ваську і Баську спалучылі матэрыяльныя справы. Відавочна гэтага ўжо дастаткова, каб паявіліся новыя стымулы ў кавалерскім жыцці.

Летам бывала тут часцей, цяпер прыязджае толькі раз у месяц. Вядома, на вадзе з Варшавы не прыедзеш, а і за начлегі ў навакольных кватэрах бяруць не мала. Васька прапанаваў сваю новую двухспальную канапу, але чамусьці не карыстаюць. Столькі ласкі, добрых слоў, усмешак Васька яшчэ ніколі не атрымаў. Называе яе сваёй Басяй, адчуваючы сябе, мабыць, упершыню ў жыцці патрэбным і чаканым.

— Хто ім тут дапаможа, калі не я, — тлумачыць з нескрываным задавальненнем.

Як адзіны ў цэлай вёсцы раскрыў сваё сэрца для чужых, успрыняў іх быццам уласную сям'ю, пра якую так марыў цэлае сваё жыццё.

Яшчэ два гады таму жаль было на яго глядзець. Суседка Вольга памерла ў аўтакатастрофе. Старэйшая на цэлых дзесяць гадоў, але вельмі жывучая, вясёлая, разведзеная яшчэ ў моладасці. Васька і Вольга былі як маці з сынам, сястра з братам, каханка з любімым. На пахаванні плакаў як дзіця. Не так па ёй, як над сваёй адзінотай. Жаль глядзець таксама на Валіну хату па другім баку вуліцы. Дах, сцены, плот марнеюць у вачах. Ніводная з трох Валіных дачок не думае сюды вяртацца.

— Ніхто не вернецца, — тлумачыць сабе Васька.

Вяртанне ў вёску ўспрымае як жыццёвую паразу. Да дажываючага сваіх дзён Тодара толькі сын прызнаецца. Дачка хіба што на пахаванне з'явіцца. Дзякаваць Богу, яшчэ сам у туалет сходзіць, астаткам сіл падмяце хату і пад хатай. Як жа ёй дагаджалі, выхвалялі на цэлы свет, і хату ў Беластоку купілі. Вось табе і каханая Манечка. Ванька, Зінка, Настка ўсе сядзяць у цёплых блёках і аб'ядаюцца, як не дзіўна, нічога не робячы. Плаваюць у такіх дастатках, што баляроны і кілбасу катам на вёску прывозяць. Галадаючага ў дзяцінстве Толіка ажно халера бярэ, гледзячы на гэта. А яму што? Старая бяда. Якую тут працу знойдзеш, нават гаспадарка не аплачваецца. Збожжа вязе прадаваць ажно ў сам Гарадок. Часам вяртаецца з катом у мяшку, а калі прадасць тое збожжа, дык па такой цане, што грошай хапае толькі на пакупку неабходнага ўгнаення. На шчасце выдаткі ў яго малыя. Харчуецца сваёй агароднінай, садавінай, яйкамі. Хопіць яму і іншым. Найбольш з'ядае паліва да адзінага трактара. А што рабіць, калі гэты трактар сапсуецца. Аднойчы тры разы камеру клеіў, безвынікова, аддаў трыццаць злотых на новую. Тады выратавалі яго варшавякі. Даў грошы, кола

працяг ☞ 11

Breaking News: Група Марзалюка ў калідорах улады – піша Валер Булгакаў

ДАДОМУ ПАЛІТЫКА БЯСПЕКА ЭКАНОМІКА І РЭФОРМЫ ГІСТОРЫЯ АСОБНАЯ ДУМКА КАНТАКТЫ

**Група Марзалюка ў калідорах улады – піша Валер Булгакаў**

**Рамантычна пра масты, альбо цікава пра турызм – піша блёгэр Вольга Дзядзічкіна**

**Станіслаў Чаропка: 1812 год. Адроджаная армія ВКЛ у змаганні супраць Расеі**

## http://nationalinterestby.net

Апошнім часам у беларускай віртуальнай прасторы сталі часцей з'яўляцца сайты, на якіх публікуюцца тэксты на розныя тэмы, датычныя ўсялякіх беларускіх спраў. Расказваецца там і аб палітыцы, і аб эканоміцы. Прычым артыкулы тыя даволі грунтоўныя, здольныя раскрыць тэмы для тых, хто імі цікавіцца. На жаль, зацікаўленых у чытанні такіх тэкстаў наўрад ці знойдзецца многа, бо высокаінтэлектуальныя расповеды не прывабліваюць вялікую колькасць чытачоў. Разам з тым з'яўленне такіх сайтаў дапамагае таму, хто хоча асэнсаваць сучасную Беларусь і беларусаў, абставіны, у якіх яны жывуць.

Увесну ў інтэрнэце з'явіўся сайт з даволі гучнай назвай — „Нацыянальны інтарэс", які размясціўся на адрасе **https://nationalinterestby.net.** Сайт зроблены пасродкам інтэрнэт-платформы Wordpress і таму мае ўсе недахопы ад размяшчэння на ёй. Так, анонсы артыкулаў няспыннай плынню ідуць адзін за адным, і „дакруціць" мышкай да канчатку даволі цяжка. Але гэта, хіба, адзіны сур'ёзны недахоп на сайце, які робіць нязручнасць пры азнаямленні са зместам.

„Нацыянальны інтарэс — гэта медыум. Мы абмяркоўваем усе тэмы, якія датычаць пытанняў абуджэння, самастанаўлення і адраджэння", — кажуць пра свой рэсурс невядомыя яго стваральнікі і ўладальнікі. Праўда, гэтых сказаў не знойдзеш на сайце, яны месцяцца толькі на старонцы „Нацыянальнага інтарэсу" ў Facebook. Гэта яшчэ адна рыса таго, што сайт зроблены саматужна і многія вартыя наяўнасці чыннікі на ім прапушчаны.

Усяго „Нацыянальны інтарэс" складаецца з пяці рубрык, дзе месцяцца тэксты. Гэта „Палітыка", „Бяспека", „Эканоміка і рэформы", „Гісторыя" і „Асобная думка". Дзяленне на такія рубрыкі паказвае, што змест артыкулаў асэнсоўваецца ўладальнікамі і яны добра арыентуюцца ў найбольш важных беларускіх грамадска-палітычных тэмах. Так, у адным з апошніх артыкулаў невядомы аўтар разважае на тэму ўзмацнення групы дэпутата беларускага парламента Ігара Марзалюка, які калісьці быў у апазіцыі да Лукашэнкі, а потым, як кажуць, „змяніўшы колер", быў абласканы ўладай, і сёння з'яўляецца адным з найбольш апантаных ненавіснікаў тых, хто прытрымліваецца антылукашэнкаўскіх пазіцый. У гэтым артыкуле робіцца цікавая выснова, што „для ўлады цяпер факт прыналежнасці новаспечанага функцыянера да незалежніцкай субкультуры 1990-2000-х цяпер не мінус, а адназначны плюс. Гэта значыць, асабліва цэняцца выпадкі, калі мясцовыя інтэлектуалы, якія ў свой час не баяліся засведчыць сваю прысутнасць у прасторах, альтэрнатыўнай афіцыйнай, нарэшце „празерылі", г.зн. усвядомілі правільнасць выбару нашага народу ў 1994 годзе, яго гістарычную непазбежнасць і веліч дасягненняў беларускай дзяржавы за апошнія 20 гадоў".

Адметна, што ўсе артыкулы на сайце не падпісаныя імем і прозвішчам. Усюды пазначаецца „by nationalinterestby", чым падкрэсліваецца, што тэксты не з'яўляюцца копіяй недзе раней размешчаных. Дадзены чыннік дадае „Нацыянальнаму інтарэсу" большай аўтарытэтнасці, бо ўласныя артыкулы заўсёды цэняцца вышэй.

Пакуль адносна новы сайт не надта вядомы беларускаму чытачу, бо цяжкавата знайсці перадрукоўкі з дадзенага рэсурсу. Гэта кажа аб тым, што ўладальніку ці ўладальнікам трэба весці больш актыўную працу па прасоўванні „Нацыянальнага інтарэса" ў інтэрнэце.

❖ Аляксандр ЯКІМЮК

## Дата з Календара

Дата з Календара
Дата з Календара
Дата з Календара
Дата з Календара

### Піяністка і патрыётка

## 180 гадоў з дня нараджэння Камілы Марцінкевіч

Сёлета споўнілася 180 гадоў з дня нараджэння Камілы Марцінкевіч, беларускай піяністкі, дачкі пачынальніка беларускай літаратуры Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча. Таленавітая кампазітарка і спявачка, настаўніца і патрыётка — гэтая ахвярная дзяўчына актыўна ўдзельнічала ў грамадскім жыцці краю, за што яшчэ ў маладосці была арыштавана і выслана за межы Айчыны ў Салікамск (Пермская губерня).

Дакладная дата нараджэння Камілы Марцінкевіч у цяперашняй сталіцы Беларусі невядомая — у розных крыніцах пазначаны проста 1837 г. Домік, у якім жыло сямейства Марцінкевічаў у Мінску, стаяў у раёне цяперашняга выхаду з метро на станцыі „Плошча Перамогі" насупраць магазіна „Шчодры". У 1830-я гады гэта былі гарадскія выселкі, якія называлі Захараўскай ці Стацкай слабадой. Тады стаялі тут невялікія домікі для дробных чыноўнікаў. Граць на фартэпіяна Каміла вучылася ў Мінскім пансіёне Мантэграндзі. Яркі музычны талент і рэдкаснае прафесійнае майстэрства ўжо ў юнацкія гады прынеслі ёй шырокую вядомасць. Каміла, вучаніца Дамініка Стэфановіча, ужо з 8 гадоў выступала з канцэртамі ў розных гарадах. Значны поспех мелі яе канцэрты з братам Міраславам у1849 г. у Кіеве і ў 1850 г. у Варшаве. Разам з творамі Шапэна і Ліста Марцінкевіч выконвала ўласныя варыяцыі на тэму песні Аляксандра Варламава „Чырвоны сарафан". На жаль, цяжкае матэрыяльнае становішча сям'і, не дазволіла ёй скончыць кансерваторыю.

Менавіта Каміла Марцінкевіч, паводле рапартаў расейскай жандармерыі, першай пачынала спяваць патрыятычныя гімны ў касцёле, за што апынулася ў багадзельні (тагачаснай псіхлякарні). Яна ж выліла на галаву менскаму губернатару графу Эдуарду Келеру вядро памыяў і, седзячы пад арыштам у Менскім турэмным замку (Валадарка), змагла выкінуць пад ногі паўстанцу, якога вялі на пакаранне, букет кветак. Да заключэння і высылкі яна займалася адукацыяй простых людзей, грала акторкай у п'есах свайго бацькі, натхняла людзей сваёй узнёслай музыкай і спевамі, карміла арыштантаў з Варшавы, якіх гналі праз Менск на ўсход, а аднойчы нават спякла для іх пірог з цукровым надпісам „Чэсць Вам", і толькі пільнасць жандарскага афіцэра не дазволіла „небяспечнаму" пірагу патрапіць да вязняў. Аднойчы менскі губернатар выслаў яе з Менска ў Вільню, але калі пра гэта даведаўся віленскі губернатар Уладзімір Назімаў, то вельмі ўзлаваўся на свайго калегу і адразу ж забараніў дзяўчыне ўезд на Віленшчыну, вярнуўшы яе назад. У 1863 годзе „як жанчына шкодная і зусім нядобранадзейная ў палітычных адносінах" выслана пад строгі паліцэйскі нагляд у Пермскую губерню Расеі.

Асноўным даследчыкам яе жыцця і дзейнасці з'яўляецца Язэп Янушкевіч, які шмат зрабіў для вяртання гэтага слаўнага імя з нябыту. Дзякуючы яму сёння вядома, што высланая з краю Каміла выйшла замуж за лекара Казіміра Асіповіча, нарадзіла шасцёра дзяцей і здолела вярнуцца ў Вільню, каб потым шукаць рукапісы твораў свайго бацькі і захаваць іх для нашчадкаў. Вядома, што на радзіму Каміла Марцінкевіч вярнулася ў 1880 годзе. Памерла пасля 1890 году. Аднак час і месца яе пахавання доўгі час заставаліся таямніцай. Лічылася, што яна можа быць пахаваная на Росах альбо на Антокалі. Урэшце магіла Камілы Марцінкевіч была знойдзена выкладчыкам ЕГУ Юрасём Бачышчам на Бернардынскіх могілках Вільні. Стала вядома, што яна пахавана побач са сваім мужам Казімірам Асіповічам.

❖ Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Засталіся адно ўспаміны (31)

У Кошкі я заязджаў яшчэ перад працай у ВПК у кампаніі калегі аднавяскоўца Міхася Качука. Меў ён у вёсцы дзяўчыну, якая называлася Пашай, Аляксандрай. А ездзілі туды на забавы. Гэта было ў пачатках шасцідзясятых гадоў. Святліцы ў Кошках не было. Забавы арганізавалі ў прыватных кватэрах. У той час я пазнаёміўся з Янкам Загонам ды Янкам Плугам. У гэтага апошняга была сястра Тоня. А паколькі мелі яны большы дом, дык моладзь арганізавала ў іх забавы. Вёска невялічкая, тыповая, як большасць сёл на Падляшшы. Сяляне займаліся гаспадаркай. Мабыць, і прозвішчы ў іх звязаны з земляробствам: Плуг, Загон, Бурак, Сліўка... Кошкі былі вядомай вёскай на Бельшчыне і славілася вырабам саламяных мат (цыновак). Праўда, гэтым рукадзеллем займаліся і ў іншых вёсках, але прывілеем карысталіся Кошкі, паколькі ў пункце скупкі рукадзелля кааператыва «Цэпэлія» ў Бельску-Падляшскім экспертам па ацэнцы вырабаў працаваў Камар (як не памыляюся, Іван) з Кошкаў. Кіраўніком у Бельску-Падляшскім працаваў Аляксандр Сахарчук, а кладаўшчыком — Станіслаў Веселоўскі. Кааператыў «Цэпэлія» ў Беластоку змяшчаўся па вуліцы Астроўскага, 21. Маты ткалі жанчыны на кроснах з адборнай саломы. Жыта — няспелае, зялёнага колеру — касілі касою або жалі сярпом. Малацілі абавязкова цэпам. Маты ткалі па памеру: метр шырыні і два з паловай даўжыні — вузкія і паўтараметровыя — шырокія. Гэтыя апошнія выраблялі ў Якубоўсках, што каля Боцькаў. Апрача таго вылучаліся маты звычайныя і ўзорыстыя (каленкавыя ды з бобам). Памятаю, як я жаніўся ў Дубяжыне ў 1968 годзе, дык мая жонка таксама лічылася членам кааператыва «Цэпэлія» і ткала маты. У выхадныя я чысціў салому. Так рабіла большасць мужчын, дзе ткалі маты. Найбольш здавалі мат сяляне Кошак, Дубяжына, Рыгораўцаў, Пашкоўшчыны, Малінніка, Мокрага ды іншых вёсак. Вяскоўцы разбагацелі. А ў Кошкі мы пачалі заязджаць з кінаперасоўкай трохі пазней, калі пабудавалі святліцу. Гэта было пэўна пасля 1965 года. Хоць вёска невялічкая і зала змяшчала сорак гледачоў, прысутнасць заўжды была ў норме. У Кошкі мы заязджалі штомесяц з Пашкоўшчыны, а далей кіраваліся на Пілікі. Але гэта ўжо іншая гісторыя.

(працяг будзе)

Уладзімір СІДАРУК

# На „Сільвестра” ў Беларусь

Намеснік начальніка Галоўнага консульскага ўпраўлення Міністэрства замежных спраў Беларусі Аляксандр Ганевіч паінфармаваў, што замежныя госці, якія карыстаюцца Мінскім аэрапортам з новым годам могуць пакарыстаца прадоўжаным дзесяцідзённым бязвізавым рэжымам. Заява была зроблена ў Міры ў час выязнога пасяджэння Пастаяннай камісіі па міжнародных справах Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу. Калі гаворка тычылася лібералізацыі бязвізавага руху, дык Аляксандр Ганевіч сказаў, што ў 2018 годзе бязвізавы рэжым для замежных гасцей, якія прыбудуць у Мінск, будзе прадоўжаны да дзесяці дзён, а ў час Еўрапейскіх футбольных гульняў у 2019 годзе — да трыццаці дзён. Міністэрства замежных спраў Беларусі мяркуе пашырыць бязвізы парадак на ўсе пагранічныя пераходы.

Паводле Ганевіча, Дзяржаўны мытны камітэт і Міністэрства спорту і турызму падтрымліваюць увядзенне бязвізавага рэжыму на трыццаць дзён. Аднак Міністэрства ўнутраных спраў і КГБ згодныя толькі на дзесяць дзён з мэтай прадвядзення лепшага кантролю пасажыраў самалёта.

У гэтай справе павінны выказацца да 2021 года ўсе дзяржаўныя структуры, — адзначае агенцтва БелТА.

У 2014-2015 гадах беларускія консульствы выдалі каля трыста тысяч віз у год. Гэта дало дзяржаве дваццаць пяць тысяч долараў (каля дзевяноста мільёнаў злотых). У 2016 годзе беларускія консульствы выдалі 275 тысяч віз. Да канца гэтага года прадбачваецца, што ў бязвізавым рэжыме Беларусь наведае каля 80 тысяч чалавек, затым знізіцца колькасць выдадзеных віз. Аднак не павінна гэта прынесці затраты дзяржаве, паколькі ажыццяўляецца рух у турыстычных сектары. Толькі ад студзеня па жнівень загранічныя госці выдалі каля дзевяноста мільёнаў долараў (321 мільён злотых) на агратурызм. У гэты сам перыяд па прычыне змяншэння выдадзеных віз дзяржава затраціла дванаццаць мільёнаў долараў (43 мільёны злотых). На думку Аляксандра Ганевіча турызм трэба падтрымліваць, паколькі з'яўляецца станоўчым досведам. **(ус)**




# Мары-кашмары

привезлі да самой хаты. Інакш прыйшлося б пяшком дваццаць кіламетраў туды і назад валачы. Такія прывабы вясковага адзіноцтва.

Васька толькі што прайшоў сур'ёзную аперацыю ног, на шчасце ўсё закончылася пасьпяхова. На той свет прынамсі яшчэ не збіраецца. Адкуль у ім столькі сілы да барацьбы з хваробамі, з тым жа адзіноцтвам? Ён — чалавек, які ніколі не старэе. Пісаў пра такіх, між іншым Дастаеўскі ў рамане «Злачынства і пакаранне»: wyglądała na młodszą niż w rzeczywistości była, jak to bywa u kobiet, które potrafią zachować aż do późnej starości pogodę ducha, świeżość uczuć i prawe, czyste serce.

Ці можна пастарэць, аручы і засяваючы родную зямлю, пануючы ва ўласнай прасторы? Ці знойдзецца ў свеце нешта прыгажэйшае за яго луг, рэчку, сад ці тую ж хатку?

А цяпер перанясем Васіля ў свет яго мараў. Высватаем жонку, якая будзе ім распараджацца быццам любімым сабачкам, зачынім у цёплым, цесным памяшканні на чацвёртым паверсе блёку па вуліцы Яжэмбіновай. Накормім баляронамі тры разы на дзень. Пра што марыць ён будзе тады?

Іаанна ЧАБАН

# Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую паговарку.

1. пухліна, якая ўзнікае ад лішку вадкасці ў тканках = 9 _ 11 _ 12 _ 8 _;
2. гарадок між Лідай і Валожынам = 23 _ 5 _ 10 _;
3. партнёрка таты = 3 _ 4 _ 16 _ 21 _;
4. партнёрка бацькі = 13 _ 19 _ 6 _ 17 _;
5. службовы разрад чыноўніка = 20 _ 15 _ 14 _;
6. дэкаратыўны куст з белымі пахучымі кветкамі (*Jasminum*) = 7 _ 1 _ 22 _ 2 _ 18 _. **(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | 2 | 3 | 4 |
| | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 |
| 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 |
| | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 |

Рашэнне: **Што ў Піліпаўку спрадзеш, тое ў Вялікі пост сатчэш**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

**Адказ на адгаданку з 48 нумара**

Цітоў, лупіна, Янаеў, шабас, пот, кроў, удзел, пікадор, дар, шліф, вяшчун, Піна, сезон, тур, чэх, храсток.

**Ніва** ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach 7[00] – 18[00].
**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

# 17.12 — 30.12

**(22.03. — 20.04.)** Змена прафесійных планаў. Не выбіраешся да канкурэнцыі? Калі ты мастак, разлічвай на натхненне і інспірацыю. Асабліва 18-22.12. пакажы свае задумы на шырэйшым полі — можа нават знайсціся хтосьці, хто іх прафінансуе. Грошай хопіць, але варта ашчаджаць. Пакуль сягнеш да кашалька, распытвай пра прамоцыі і ільготы. 17-19.12. варта табе крыху прагаладацца, ачысціць арганізм. 23-27.12. хтосьці блізкі можа цябе расчараваць.

**(21.04. — 21.05.)** Будзеш упэўнены і бяспечны, поўны энергіі. 25-31.12. можаш раптам кімсьці захапіцца. Твая кар'ера ідзе ўперад, але дакладна прыглядайся дамовам. 23-27.12. можаш фіналізаваць вельмі карысны інтарэс. 25-31.12. удасца табе штосьці, што да гэтай пары здавалася быць нерэальным.

**(22.05. — 22.06.)** 17-19.12. гарачае рандэву або карыснае супрацоўніцтва. Да 23.12. не мяняй нічога і нікога сілай. З 21.12. закончыш распачатыя праекты і заплануеш новыя дзеянні. З 23.12. раз'ясніцца табе ў галаве з пачуццямі; да гэтай пары не давай нікому ніякіх абяцанняў. Мноства работы, але памогуць табе супрацоўнікі. На працы нарады могуць прынесці незвычайныя высновы. У рабоце будзь цярплівы і працавіты.

**(23.06. — 23.07.)** Нуднавата, спакойна, таму паспееш падагнаць усе «хвасты». У пачуццях няма канца турботам, але ад гэтага дасі рады адаліцца. У парах 25-31.12. асабліва горача і рамантычна. Самотныя раптам могуць нечакана кімсьці захапіцца, але не ўсё такое як нам здаецца. 20-23.12. можаш мець вырашальны голас у шмат якіх справах у радні і ў грамадзе. Абсалютна не ўлазь у даўгі!

**(24.07. — 23.08.)** 18-22.12. можаш лёгка здабыць дадатковыя грошы. Найлепшы час схадзіць да касметолага: 17-19.12. Прыліў творчай вены. Ільвы ў парах павінны задбаць, каб пад уплывам эмоцый не знішчаць таго, што самае важнае паміж імі. 20-24.12. і 23-27.12. магчымыя трэнні ў сям'і, таму трымай нервы на павадку, асабліва ў большай сямейнай кампаніі. Магчымая большая прэмія на працы, нават збытак грошай!

**(24.08. — 23.09.)** 20-24.12. — час спрыяе важным рашэнням з доўгатэрміновымі вынікамі. 23-27.12. новыя сувязі могуць увайсці ў больш сур'ёзны этап. Канец года вельмі рамантычны. 23-30.12. вернуцца ў пары любоў і жарснасць. Важныя размовы і негацыяцыі афармляй пасля 24.12. Стагнацыя ў фінансах нядоўгая. Пячонку падтрымай зёлкавай курацыяй.

**(24.09. — 23.10.)** 16-17.12. знакаміты час на наладжванне прафесійных кантактаў. Добры час для развою талентаў ды фінансавых удач. Шалям з апошніх дзён знака асабліва пашанцуе. Можаш добра падзарабіць, выкарыстоўваючы свае шматлікія таленты. Горшы настрой самотных Шаляў, але не перайма́йцеся, нават калі Новы год прывітаеце без партнёра пад бокам, гэта не значыць, што за наступных 12 месяцаў нічога не адбудзецца. Дбай пра свае дыхальныя шляхі.

**(24.10.—22.11.)** Шчаслівая ў цябе рука да грошай, няблага ў фінансах. Нават зможаш камусьці пазычыць ці проста даць. Новыя знаёмствы, з 25 да 31.12. будзе ў іх гарачэй. 25-31.12. будзеш мець інспірацыю зрабіць штосьці прыгожае і незвычайнае. Акаляй сябе зялёнымі раслінамі для здароўя і добрага настрою.

**(23.11.— 22.12.)** 16-17.12. час на важнае жыццёвае рашэнне. 17-19.12. правядзі парадкі ў адносінах. Прабач тым, хто цябе пакрыўдзіў, аднак старыя знаёмствы, кончняўдалыя. Самотныя Стральцы будуць вельмі вабнымі. Можа паявіцца нават праблема з лішкам прапаноў! Усе вашы стараннi і праца будуць узнагароджаны. Добра асабліва ў тых, хто працуе на сваім.

**(23.12. — 20.01.)** З 21.12. вырашай пра найважнейшае. 23-27.12. найлепшы момант (калі ўжо) на парванне адносін. Самотны Казярог можа «упаляваць» сваю жаданую палавінку. Пані могуць стаць сведкай на шлюбе або хроснай матулькай. А на працы і ў інтарэсах пачне ўсё ісці па-твойму. Казярогі з першых дзён знака могуць атрымаць новую працу. Пасля 25.12. лягчэй будзе ўзяць крэдыт і хутка яго сплаціць. Не хапае табе вітаміну Д.

**(21.01. — 19.02.)** 17-22.12. яшчэ цяжка будзе табе засярodзіцца і сказаць, чаго сапраўды хочаш. 19-21.12. можаш выбрацца ў неспадзяванае падарожжа. У апошнія дні снежня будзеш больш далікатны, падумаеш пра адчуванні партнёра, дык лады ў пары папраявіцца. Не бяры, калі не мусіш, пазык, але варта захаваць дом. На працы будзеш нават бунтарскі, што можа накіраваць цябе на дзеянні на сваю руку. Папівай зёлкі.

**(20.02. — 21.03.)** Зімовая аўра падагрэе эмоцыі. Смела змагайся за сваё шчасце. Патрабаванні да цябе будуць вялікія, але кіраўніцтва вельмі прыхільнае. 23-27.12. варта высветліць адносіны і вызначыць дату шлюбу на 2018 г. На працы будзеш незаменны ў даследчыцкай рабоце, дзе трэба аналізаваць і мець інтуіцыю. Год закончыш аптымістычна — чэкам пад ёлачкай, большай зарплатай ці выйгрышам!

Агата АРЛЯНСКАЯ

Кароль Жыгімонт Стары на помніку ў Кляшчэлях



# Кляшчэлі

У апошні дзень курсіравання заменнай чыгуначнай камунікацыі з Бельска ў Чаромху падаюся яшчэ раз праехацца „чыгуначным" аўтобусам. Злажу з яго ў Кляшчэлях, бо гэта нагода прызямліцца ў цэнтры горада; чыгуначны вакзал знаходзіцца каля кіламетра далей.

Аўтобусы прыпынак перад новай школай. Побач невялікі парк, а ў ім помнік каралю Жыгімонту Старому, які ў 1523 годзе прысвоіў мясцовасці гарадскую прывілею. Партал sztetl: „Do rozwoju miasta przyczyniła się królowa Bona, żona Zygmunta Starego, oraz królowa Anna, żona Stefana Batorego. (...) Dynamiczny rozwój miasta przerwały wojny szwedzkie oraz pożar w 1777 r., po którym ze 181 domów pozostało tylko 13, ale już źródła z 1794 r. podają, że miasto liczyło 270 domów. Kleszczele słynęły z plantacji chmielu, który eksportowano do Królewca...".

За паркам мураваная Успенская царква; Вікіпедыя: „Inwestycja została opłacona przez rosyjski skarb państwa, natomiast miejscowi parafianie zgromadzili kwotę 3299 rubli i 49 kopiejek na zakup wyposażenia. Cerkiew została zbudowana niedaleko starszej świątyni św. Mikołaja, na miejscu XVIII-wiecznego kościoła św. Zygmunta, który w 1866 został zamknięty na mocy dekretu gubernatora grodzieńskiego i wileńskiego Konstantina von Kaufmana. Materiału z rozebranego drewnianego kościoła użyto do budowy cerkwi, która w odróżnieniu od niego, jak i od starszych prawosławnych świątyń w Kleszczelach była obiektem murowanym. Konsekracja świątyni odbyła się 22 października 1877. (...) W lipcu 1944 cerkiew została spalona podczas działań wojennych. Całkowitemu zniszczeniu uległ dach i większość wyposażenia wnętrza, uszkodzeniu uległ ikonostas. Szybko przystąpiono jednak do odnowienia obiektu, a zniszczone ikony zastąpiono wizerunkami ze zniszczonej cerkwi z Szereszowa. W 1966, pod wrażeniem Soboru Watykańskiego II, w kleszczelowskiej cerkwi oraz w miejscowym kościele św. Zygmunta odbyły się nabożeństwa ekumeniczne, co było sytuacją wyjątkową w regionie...".

У міжваенны перыяд Кляшчэлі былі нейкі час нават мэтай паломніцтваў, як да месца аздараўлення. Дачка бацюшкі Уладзіміра Кудраўцава пракалола вока і лекары заявілі, што гэтай траўмы не залечаць. Але матушка стала маліцца Серафіму Сараўскаму і здарыўся цуд — рана зажыла. Сайт ruguard.ru: „В личной жизни о. Владимир отличался строгостью к себе и любовью к ближним. Вставал он в пять часов утра и молился. Сам начищал всем обувь и протирал полы". Да таго ж ён адкрыта гаварыў тое, што думаў, за што яго і прыкончылі ў Жыровічах савецкія партызаны ў 1943 годзе...

Была згадка пра касцёл святога Зыгмунта. Сайт тыднёвіка „Niedziela": „Pierwszy drewniany rzymskokatolicki kościół pw. Przemienienia Pańskiego, Wniebowzięcia Najświętszej Maryi Panny i św. Zygmunta Męczennika w Kleszczelach został wzniesiony z fundacji Zygmunta I Starego i jego żony królowej Bony Sforza d'Aragona ok. 1533 r. W czasie najazdu moskiewskiego pod koniec 1659 r. kościół został spalony razem z plebanią". У 1723 годзе быў узведзены новы касцёл, які быў закрыты і знесены пасля Студзеньскага паўстання. Пасля царскага ўказа аб верацярпімасці ад 1905 года, у 1907-1910 гг. быў узведзены цяперашні касцёл пад заступніцтвам святога Сігізмунда Пакутніка.

Сігізмунд быў каралём бургундаў у 516-524 гадах. Пасля смерці першай жонкі зноў ажаніўся. Але новай жонцы бяльмом у воку быў яе пасынак, за якім было першынство перад еймі сынамі на каралеўскі трон і яна абвінавačіла яго ў планаванні забойства бацькі. Сігізмунд загадаў сваім слугам задушыць сына. Пасля каяўся, пабудаваў манастыр, у якім нейкі час прабываў. Дваюрадныя браты забітага, па маці, неўзабаве пайшлі вайною на Сігізмунда, схапілі яго з жонкай і сынамі ад яе і ўтапілі іх усіх у студні. Вікіпедыя: „Tradycja zachowała w pamięci Zygmunta jako króla pobożnego. Chętnie porównywano go z królem Dawidem, który dopuścił się zbrodni, ale odpokutował swój grzech. W wieku XIV i XV św. Zygmunt należał do najpopularniejszych świętych Europy, jako wzór cnót rządzących, i jako taki czczony przez domy królewskie Luksemburgów i Jagiellonów". Хто ведае, ці і славутая каралева Бона, жонка аднаго Сігізмунда і маці другога, не кіравалася прыкладам святога ў адносінах да сваёй нявесткі Барбары Радзівілаўны...

Кляшчэлеўскі касцёл, будаваны ў царскі час, не атрымаў месца ў рынку, але крыху навонкі. Звернуты навонкі горада яго франтон, быццам стаў „тварам" у напрамку Рыма, а „плячмі" ў бок Масквы, быццам „глядзеў" у бок чыгуначнага вакзала. Раней здаралася мне хадзіць па вузкай жвіроўцы для пешаходаў, якая зручна злучала згаданы вакзал з горадам. Цяпер народ перасеў у машыны і пехатою не надта ёсць каму ўтоптваць тую дарожку, якая ў балотную пару года набірае сырасці і мяккасці. Вакзальны будынак зараз пустуе, вокны шчыльна забіты бляшанымі і стружкавымі плітамі. Высока завешана абвестка пра продаж аб'екта. А на прывакзальным пляцы інфармацыйны стэнд пра гісторыю будынка. Быў ён узведзены ў канцы XIX стагоддзя ў модным тады па ўсёй Еўропе швейцарскім стылі. Так той архітэктурны стыль назвалі, а базіраваўся ён на народным драўляным дойлідстве з рознымі нескладанымі аздабленнямі. Будынкі з драўляных брусоў стаўлялі на плане прамавугольніка, з нескладаным двухпакатным дахам, прамавугольныя былі таксама аконныя і дзвярныя праёмы; магчымыя былі таксама веранды і балконы... Перасталі людзі ездзіць цягнікамі і вакзал у Кляшчэлях змагаецца цяпер не з натоўпам пасажыраў, але са звычайным Часам...

Кожная мясцовасць цягам свайго існавання праходзіць розныя па дынаміцы развіцця перыяды. Няйнакш было і з Кляшчэлямі, калі горад час ад часу набываў большы ранг у мясцовым наваколлі. У царскі час Кляшчэлі былі цэнтрам праваслаўнага дэканата. У яго склад уваходзілі Старакарнянскі, Новаберазоўскі, Чыжоўскі, Шчытоўскі, Арлянскі, Воленскі, Косненскі, Дубінскі, Дубіцкі і сам Кляшчэлеўскі прыходы. Благачынным быў Аляксандр Салаўевіч, адзначаны орднам св. Анны ды памятнымі медалямі Крымскай вайны 1853-1856 і задушэння Студзеньскага паўстання 1863-1864 гадоў. У пачатку 1880-х гадоў у Старакарнянскім прыходзе служыў а. Яраслаў Брэн, узнагароджаны залатым медалём Маскоўскага імператарскага таварыства любіцеляў прыродазнаўства.

Гэты зорны час абарваўся з канчынай царскай імперыі, але неўзабаве пасля прыходу саветаў, у 1940 годзе, у Кляшчэлі зноў заглянула сонейка, калі горад быў узведзены ў ранг раённых цэнтраў Берасцейскай вобласці; тады ж раённымі цэнтрамі сталі Гайнаўка і Сямятычы. Пад уладу саветаў Кляшчэлі вярнуліся ў ліпені 1944 года, а 16 жніўня 1945 года заходняя частка Берасцейскай вобласці з названымі вышэй гарадамі была перададзена Польшчы і апынулася ў межах Бельскага павета. У 1950 годзе Кляшчэлі перасталі быць горадам; гарадское права было вернута ў 1993 годзе...

Ад чыгуначнай станцыі падаюся ў бок Рэпчыцкага вадасховішча. Было яно пабудавана ў 2001-2002 гадах у вярхоўях рэчкі Нурэц. Геаграфічны слоўнік Каралеўства Польскага: „Nurzec, rzeka, bierze początek w Puszczy Białowieskiej, koło mtka Kleszczele, w pow. bielskim. Prowadząc leśne wody puszczy, płynie koło wsi Nurzec, pod mkiem Kleszczele, mija Brańsk, pod którym przyjmuje rzekę Bronkę, pod wsią Wyszonki dotyka granicy królestwa i na przestrzeni 25 w. oddziela gub. grodzieńską od pow. mazowieckiego i ostrowskiego. Płynie następnie na Ciechanowiec i pod wsią Wojtkowce wpada z praw. brzegu do Bugu, na przeciw ujścia Cetyni. Długość całkowita 95 w. Od Brańska zdatny do spławu drzewa. Niegdyś N. oddzielał ziemie drohicką od bielskiej".

Пра самі Кляшчэлі Слоўнік згадвае так: „Kleszczele, mstko, gm. Dubiażyn, pow. bielski, guber. grodzieńska, leży nad rz. Nurcem, niedaleko jej źródła i źródła Orlanki i nad strugą Dobrowódką, przy b. drodze pocztowej z Bielska do Wysokiego litewskiego (resp. Grodno-Brześć), o 23 w. od Bielska, o 139 w. od Grajewa, ma st. dr. żel. między Bielskiem a Wysokiem. 1980 mk., 1444 dz. ziemi miejskiej i 147 cerk. Dnia 1 stycznia 1878 było tu 1750 mk., t. j. 861 męż., 889 kob.; 807 prawosł., 518 kat., 435 izrael. Była tu parafia katol. dekan. bielskiego z kaplicą w Kruhlem. Par. praw., dek. (błagoczynia) kleszczelskiego, 2730 dusz, cerkiew paraf., dwie filialne i dwie cmentarne. Dekanat praw. obejmuje 9 parafii. Mko K. słynie z hodowli ogórków, handel nieznaczny, 2 jarmarki. Przywilejem z r. 1523 król Zygmunt zatwierdził lokacyą tego miasta. Królowa Bona, posiadająca ekonomią bielską, fundowała tu 1544 r. kościół i uposażyła plebana. Lustracya z 1566 r. wymienia w tym mku 385 dm. opodatkowanych, 20 rzemieśl., 32 karczem piwnych z miodowemi i tyleż gorzałczanych. Przywilej Stefana Batorego 1578 r. zabezpieczył handel solą samym mieszczanom. Królowa Anna, małżonka tego króla, rozciągała troskliwą opiekę nad miasteczkiem, które do jej dzierżaw należało. W r. 1775 Kleszczele, przez samych chrześcian osiadłe, miały bez przedmieść 270 dm. Uprawa chmielu i handel nim z Królewcem, znaczne mieszczanom tutajszym przynosiły korzyści. Kleszczelskie niegrodowe starostwo w wojew. podlaskiem, w ziemi bielskiej, podług lustracyi z r. 1664 powstało z dawniejszego sstwa bielskiego przez odłączanie od niego miasta Kleszczele, i wsi: Dobrawoda, Kurzawa albo Babice, Nurzec al. Czeremcha, Sucha Wola, Grabowiec al. Obychodnik, Dubicze al. Zarywiec, Jelonka, Czachy. Za Zygmunta Augusta i Batorego zaliczało się do dóbr stołowych królewskich...".

Староства ні павету цяпер у Кляшчэлях няма, але ёсць праваслаўны дэканат, які быў узноўлены ў 1993 годзе — запар з вяртаннем Кляшчэлям гарадскога права. Цяперашні дэканат крыху іншы чым сто гадоў раней, у яго складзе між іншым Кузаўскі і Чаромхаўскі прыходы. Першы з іх быў вылучаны з Кляшчэлеўскага прыхода ў 1984 годзе, а другі — з першага два гады пазней...

Царква св. Варвары ў Кузаве ставілася няспешна; у 1936 годзе пабудавалі там драўляную капліцу, якую ў 1978-1980 гадах абвялі мурам, узводзячы ў ранг спярша філіяльнай, а затым і ў ранг прыходскай царквы — мацуючы фундаменты цяперашняга Кляшчэлеўскага дэканата...

Тэкст і фота **Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

Вакзальны будынак




Новы крыж у Кузаве



ISSN 0546-1960